

Успамінаем свае вёскі → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Каля Боцькаў → 9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 30 (3141) Год LXI

Беласток, 24 ліпеня 2016 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Ляўкоўскім «Цаглінкам» 40 гадоў

**— Сёння ў Ляўкове вялікае свята, бо адзначаем круглы юбілей, 40-годдзе дзейнасці нашага беларускага народнага калектыву «Цаглінкі», які быў заснаваны ў 1976 годзе пры Прадпрыемстве будаўнічай керамікі ў Старым Ляўкове. Я працую з калектывам ужо 23 гады і рады, што «Цаглінкі» павялічваюць свой рэпертуар. Мы пабольшалі свой склад, прынялі маладых асоб, частка з якіх гэта дзеці былых членаў калектыву. Зараз у «Цаглінках» спяваюць 23 асобы. Выступаючы перш за ўсё з беларускімі народнымі песнямі ў маёй апрацоўцы і аўтарскімі творамі, між іншым на словы нашага паэта з Альхоўкі Міколы Варанецкага і з маёй кампазіцыяй, расслаўляем мы Нараўчанскую гміну, — сказаў музычны кіраўнік «Цаглінак» Мікола Мяжэнны, які састаўляе «Цаглінкам» акампанемент на акардэоне.**



Святкаванне круглага юбілею адбылося 12 ліпеня, у дзень святых апосталаў Пятра і Паўла, пасля багаслужбы ў мясцовай царкве і гасціявання па хатах. На юбілейны канцэрт прыбыло многа запрошаных гасцей. Калі перастаў ісці дождж, на пляцоўцы каля вялікай сцэны стала збірацца штораз больш мясцовай і прыезджай публікі.

— Я ў дзяцінстве жыў у Скупаве. Памятаю, як з бацькамі прыязджаў у ляўкоўскую царкву на Пятра і Паўла. У гэты дзень прыходзілася пабываць на выступах калектыву «Цаглінкі», які так прыгожа спяваў беларускія песні і які сёння адзначае 40-годдзе сваёй дзейнасці, — заявіў Анатоль Вап, дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку.

Ганаровую адзнаку Міністра культуры і нацыянальнай спадчыны РП «Заслужаны для польскай культуры» атрымалі наш беларускі паэт з Альхоўкі Мікола Варанецкі і тры члены ляўкоўскага калектыву: Ежы Равінскі, Юлія Драўноўская і Людміла Максімюк. Адзнакі ўручылі дырэктар Анатоль Вап і ўпаўнаважаны падляшскага ваяводы па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Войцех Пшыгоньскі. Астатні зачытаў таксама віншавальны ліст ваяводы Багдана Пашкоўскага. Дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Міхал Рыбакоў зачытаў віншавальны ліст амбасадара РБ у Польшчы Аляксандра Авяр'янава. Дыпламат падзякаваў спевакам за працу ў карысць беларускай культуры і адданасць беларускасці. Дырэктар Рыбакоў далучыўся да віншаванняў і ад імя КЦБ у Варшаве ўзнагародзіў Міколу Мяжэннага, Лену Барташук, Ежы Равінскага, Веру Осяк, Марыю Русіновіч, Ірэну Лапінскую, Людмілу Максімюк і Юлію Драўноўскую. Гэтыя самыя асобы і дзве маладыя спявачкі Паўліна Драўноўская і Магдалена Сухадола атрымалі віншавальныя лісты Управы Падляшскага ваяводства, якія ўручыў дырэктар Анатоль Вап і павіншаваў «Цаглінак» ад імя Маршалкоўскай управы ў Беластоку.

— Калектыў «Цаглінкі» з'яўляецца амбасадарам Ляўкова і Нараўчанскай гміны не толькі на Польшчы і Беларусь. Выступаў таксама ва Украіне, Літве і Нямеччыне, расслаўляючы беларускую песню і культуру, і заадно нашу гміну. «Цаглінкі» часта выступаюць перад мясцовай публікай. Захапляюць нас прыгожым выкананнем беларускіх песень, дапамагаюць захаваць ад забыцця мясцовы фальклор і нашы традыцыі, — сказаў войт Нараўчанскай гміны Мікола Павільч. Красамоўна павіншаваў ён юбіляраў і перадаў ім грашовы падарунак. Старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі ад імя Галоўнага праўлення сваёй арганізацыі ўручыў падарунак і дыплом 60-годдзя дзейнасці БГКТ. Віншавальны ліст «Цаглінкам» і пажаданні ад імя старасты Гайнаўскага павета Мірaслава Раманюка перадаў павятовы радны Міраслаў Кульбацкі. Калектыў «Цаглінкі» павіншаваў дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку Цэзары Мелька. Старшыня ўправы акругова аддзялення Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў Ян Каліноўскі звярнуў увагу на поспехі «Цаглінак» на «Сеніярадах» і перадаў віншавальны ліст Міколу Мяжэннаму і Лене Барташук. Вершаваным творам падвяла дзейнасць «Цаглінак» і павіншавала спевакоў старшыня гміннай управы ПСПіІ ў Нараўцы Ядвіга Карпюк. Пра пачаткі дзейнасці і цяперашнюю актыўнасць калектыву «Цаглінкі» распавяла вядучая юбілейнае мерапрыемства Кацярына Бяляўская. Паведаміла яна, што ляўкоўскі калектыў выступае цяпер па 25-30 разоў у год і ад пачатку сваёй дзейнасці даў больш за 800 канцэртаў у Польшчы і замежжы, перш за ўсё ў Беларусі — у Мінску, Гродне, Брэсце, Свіслачы, Пружанах, Пінску, Залессі і іншых мясцовасцях.

— Будучы дырэктарам Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы я больш за дзесяць гадоў супрацоўнічаў з калектывам «Цаглінкі». Перайшоўшы на працу ў Гайнаўку не парваў я з імі кантактаў, — заявіў намеснік бургамістра Гайнаўкі Андрэй Скепка, які надалей жыве ў Ляўкове і асабіста добра ведае юбіляраў. Павіншаваў ён калектыў ад імя бургамістра Гайнаўкі Ежы Сірака.

Уласнік суполкі з абмежаванай адказнасцю «Ляўкова. Будаўнічая кераміка» Валянцін Пацэвіч прыйшоў разам са старшынёй Рады управы суполкі Анатолем Ахрыцюком, былым бургамістрам Гайнаўкі, ураджэнцам Скупава. Абодва павіншавалі юбіляраў і ўручылі ім падарункі.

— Мы, будучы працаўніцамі прадпрыемства будаўнічай керамікі ў Ляўкове падчас работы сталі падпяваць. Пачуў гэта старшыня прадпрыемства Канстанцін Майсеня і запрапанаваў стварыць пры нашай фабрыцы беларускі калектыў. Паколькі мы выраблялі цэглы, ад іх і паўстала ласкавае названне нашага калектыву «Цаглінкі». Першым нашым музычным кіраўніком быў Аляксандр Лукашук, пазней — Васіль Целушэцкі, Славамір Пакумейка, а цяпер звыш дваццаці гадоў з'яўляецца ім Мікола Мяжэнны. У першым складзе нашага калектыву выступала больш за 30 чалавек. Апрача жанчын спявалі таксама мужчыны. Пасля састаў калектыву мяняўся. Я цэлы час спявала, даязджаючы на рэпетыцыі з Міхнаўкі. Некалькі гадоў назад з-за хваробы я перастала выступаць з «Цаглінкамі», але цікавіць мяне іх дзейнасць, — успамінала Надзея Кабац.

Мікола Мяжэнны адзначыў, што Надзея Кабац заслужылася не толькі сваім спевам, але і тым, што запісвала мясцовыя песні, якія пасля апрацоўкі папоўнілі рэпертуар калектыву.

— Мы выдалі тры кампакт-дыскі, але ў нашым рэпертуары намнога больш песень, чым удалося нам змясціць на кружэлках. Заклікаю суполкі і прыватныя асобы падтрымаць фінансава выданне чарговых кампакт-дыскаў з новымі нашымі песнямі. Я рады, што старэйшых спевакоў замяшчаюць маладыя асобы, якіх цікавіць беларуская песня, — заявіў музычны кіраўнік «Цаглінак» Мікола Мяжэнны.

— У нашым рэпертуары ў асноўным ёсць беларускія песні. Але паколькі мы спяваем у розных месцах Польшчы і выязджаем ў замежныя краіны, спяваем таксама польскія, украінскія і расійскія песні. Былі мы лаўрэатамі фестывалю «Беларуская песня», перамагалі падчас «Сеніярадаў» у розных гарадах і падчас іншых конкурсаў. Наш музычны кіраўнік Мікола Мяжэнны — чалавек патрабавальны падчас рэпетыцый і выступленняў. Але без гэтага не было б поспехаў. Арганізуе ён нам выезды на канцэрты, чым раней займаўся наш менеджар Віктар Бура, — сказала Марыя Русіновіч, якая ў «Цаглінках» спявае ад самага пачатку і раней была яго арганізацыйным кіраўніком.

— Я люблю спяваць. Мне падабаліся выступы «Цаглінак» і таму я стала членам калектыву. Удалося нам заахвоціць маладых дзяўчат далучыцца да нас. Апошнім часам нашы «Цаглінкі» амаладжваюцца, — заявіла Лена Барташук, цяперашняя арганізацыйная кіраўнік ляўкоўскага калектыву.

Публіку весяліў не толькі калектыў-юбіляр «Цаглінкі». Удзельнікі юбілейнага мерапрыемства з зацікаўленасцю слухалі песень у выкананні калектываў «Нараўчанкі» з Нараўкі, гуртоў «Гай» з Беластока, "Арт-Пронар" з Нарвы і народнага ансамбля беларускай песні і танца «Росніца» з Гродна.

— Зараз «Цаглінкі» выконваюць больш харавой музыкі і робяць гэта ўдала. Наш калектыў «Нараўчанкі» выконвае штораз больш беларускай музыкі. У нас з «Цаглінкамі» спаборніцтва ў станоўчым значэнні гэтага слова, — сказаў музычны кіраўнік «Нараўчанак» Пётр Скепка.

— Сёння «Цаглінкі» цікава выступілі з прыгожымі беларускімі песнямі. Я рады, што музыку да песень на словы маіх вершаў складае Мікола Мяжэнны, а «Цаглінкі» выступаюць з імі, што можна было пачуць таксама сёння. Я выступаю з «Нараўчанкамі» ўжо чатыры гады. Я люблю спяваць беларускія песні. Музыку на словы майго верша «Песня мая» скампанаваў наш музычны кіраўнік Пётр Скепка. Зараз запрэзентуем гэты твор, а я буду спяваць сола, напераменку з цэлым калектывам «Нараўчанак». Я — пастаянны чытач «Нівы», дасылаю допісы ў наш тыднёвік. Я цешуся, што нядаўна выйшаў зборнік маіх вершаў «Жывуць песні», — сказаў Мікола Варанецкі з Альхоўкі, які ўдала выступіў з «Нараўчанкамі».

— Мы ахвотна прыязджаем на Беласточчыну. Сёння зацікавіў нас выступ калектыву-юбіляра «Цаглінкі». З гэтай нагоды мы будзем сёння выконваць беларускія народныя песні і танцы, — заявіла спявачка Народнага ансамбля беларускай песні і танца «Росніца» з Гродна.

Дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена Рэент паведаміла, што перад публікай выступіць калектыў «Табар» з Ольштына з цыганскай музыкай, а да танцаў пазней будзе іграць гурт "Аксель" з Нарвы. Юбіляры і спевакі з іншых беларускіх калектываў не чакалі змроку, але ўжо днём сталі танцаваць пад гукі беларускай музыкі.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# Выратаванне тапельцаў...

Зусім нядаўна, выступаючы перад сваім народам, канцлер Нямеччыны заявіла, што нямецкія спецслужбы ведаюць як мінімум трынаццаць выпадкаў пранікнення за апошні час на іх тэрыторыю тэрарыстаў, якія патрапілі сюды пад выглядам уцекачоў (?!). Гэта хіба што азначае, што немцам трэба быць гатовымі як мінімум да трынаццаці тэрактаў, якія ў бліжэйшы час могуць здарыцца.

А што яшчэ могуць азначаць гэтыя словы?! Тэракты будуць. У гэтым няма сумненняў, бо менавіта дзеля гэтага тэрарысты сюды ехалі.

Прэзідэнт Францыі свой народ пра магчымасць тэрактаў не папярэджваў. Які сэнс папярэджваць пра гэта народ, які і так увесь час чакае чарговага выбуху. Гэта як у старым савецкім анекдоце, калі нейкі нямецкі турыст на дзіравай савецкай дарозе ўваліўся ў глыбокую яму і цалкам знішчыў сваю „народную машыну".

— Што гэта такое! — крычаў ён.

— У нас, у Нямеччыне, як на дарозе з'яўляецца хоць маленькая ямка, яе адразу чырвонымі сцяжкамі абносяць, каб бачная была! А ў вас што тут робіцца?!

— А ты як мяжу перасякаў, такі вялікі-вялікі чырвоны сцяг бачыў? — пытаюцца ў яго.

— Ну бачыў, — адказвае той. — А прычым тут той вялікі чырвоны сцяг на мяжы?

— Ну дык вось, — тлумачаць яму савецкія міліцыянты. — Той вялікі чырвоны сцяг дзейнічае на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза. Таму няма аніякага сэнсу ставіць маленькія чырвоныя сцяжкі там, дзе небяспечна, бо небяспечна ўсюды.

Хіба ўжо час надышоў, каб на мяжы Еўрасаюза павесіць вялікі чырвоны сцяг. Зараз ужо нават невядома, дзе больш небяспечна стала. Ці ў тым месцы, адкуль у Еўропу сунуцца ўцекачы, ці ў самой Еўропе. Яно то праўда, у тых раёнах еўрапейскіх гарадоў, дзе ўцекачы масава спыняюцца, утвараючы цэлыя міграцкія раёны, тэрактаў не бывае. Там свае разборкі, да якіх не дапускаюць нават еўрапейскую паліцыю. А вось там, дзе тусуецца карэннае насельніцтва старэнькай Еўропы, на стадыёнах, цэнтральных плошчах і нават у рэдакцыях газет увесь час нешта перыядычна здараецца.

І вось ужо і ў сонечнай Ніцы на святкаванні французскага нацыянальнага свята Дня ўзяцця Бастыліі пад выбухі святочнага салюту тэрарыст на грузавіку пачаў душыць людзей за тое, што яны людзі... І гэта ў той Францыі, якая, прымаючы чэмпіянат Еўропы па футболе, укінула шалёныя сродкі на бяспеку, праводзіла антытэрарыстычныя вучэнні ад нападу тых тэрарыстаў з паветра, мора і зямлі...

Дык вось, ніякія сродкі і паказныя вучэнні не могуць гарантаваць аніякай бяспекі, калі палітыкі негатовыя прызнаць сваёй памылкі і толькі як мантру могуць паўтараць ужо замусоленыя словы кшталту „... перад аблічам небяспекі мы яшчэ больш з'яднаемся...".

Але многія жыхароў Ніцы больш не збіраюцца з імі яднацца. У адрас кіраўніцтва краіны, якое прыехала туды, гучалі страшныя словы: „Гэта вы забойцы". А для іншых жыхароў Еўропы засцеражэнне: „Калі гэта здарылася з намі, то здарыцца і з вамі".

Але ніхто з дзеючых галоўных палітыкаў так і не заявіў, што эміграцкая палітыка была няправільнай і яе трэба тэрмінова мяняць...

А ў гэты час у Турцыі ледзьве не адбыўся дзяржаўны пераварот. І што там будзе далей — невядома. Але для Еўропы ўжо няважна, які з двух магчымых сцэнарыяў — ці пераварот, ці ўмацненне дыктатуры — там адбудзецца. Што б там не здарылася, гэта выкліча чарговую велізарную хвалю ўцекачоў, якія хлынуць не ў ісламскія краіны, а менавіта ў талерантную Еўропу. Еўропа да новых выклікаў не толькі непадрыхтаваная, але нават і не рыхтуецца...

Ну а тым, хто і надалей выступае супраць дазволу зброі, карыстаючыся выпадкам, чарговы раз хачу заявіць, што каб у людзей, якія выйшлі ў Ніцы на свята, была зброя, то тэрарыст быў бы застрэлены значна хутчэй і дзясяткі жыццяў былі б выратаваныя. Як казаў класік: „Выратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў".

А так людзям прыйшлося як зайцам баязліва і ганебна, душачы адзін другога, уцякаць ад аднаго толькі тэрарыста... Чарговы раз людзі пераканаліся, што ні паліцыя, ні службы бяспекі, ні абяцанні палітыкаў не могуць гарантаваць бяспекі, калі сам чалавек асабіста не мае права на яе.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Дваістасць

Усяго праз два дні пасля няўдалага ваеннага перавароту ў Турцыі тамашнія ўлады эфектыўна арыштавалі тысячы людзей. Сапраўды, яны паказалі эфектыўнасць маланкі! Як быццам на працягу доўгага часу і ведалі, калі і ў чыя дзверы загрукаць. Але гэта не мае значэння. Няма часу для таго, каб раздзьмухваць незасведчаную дакументальна змоўніцкую тэорыю. З ліку звязаных роўна палова з іх — суддзі і пракуроры. Гэта надзвычай інтрыгуе, чаму якраз яны. Ці гэта незалежныя суддзі і пракуроры пагражаюць дэмакратыі ў Турцыі?

Адказваючы на просьбу пракаментаваць апошнія падзеі ў Турцыі прэзідэнт РП Анджэй Дуда сказаў так (цытую з памяці): «Ну, што ж, выйграла дэмакратыя». Толькі што Турцыя пры цяперашнім прэзідэнце мае столькі агульнага з дэмакратыяй, як Беларусь кіраваная на працягу больш за 20 гадоў моцнай рукой Лукашэнкі. На жаль, гэтыя два чалавекі былі абраны ў ходзе дэмакратычных выбараў. І гэта некалькі разоў запар. Нагадаю, што ў небеспадставай фальсіфікацыі абвінавачваюць аднаго і другога спадара. Я кажу «спадара» не без іроніі. Першы дачакаўся на працягу доўгага часу тытулу «беспамылковага Бацькі народа». Другі, з-за аўтарытарнага ладу праўлення — «султана». Ці прэзідэнт Анджэй Дуда гэтага не ведаў?

Аказваецца, што дэмакратыя можа быць вызначана ў розны і супярэчлівы семантычна спосаб. Але справа не ў тым, каб прэзідэнт Польшчы быў семантычна правільным, а ў тым, каб быў захавальнікам Канстытуцыі, якую ва ўрачыстай клятве абяцаў абараняць. Згаджаючыся на расстрой канстытуцыйна ўстаноўленага падзелу ўлады, на абмежаванне незалежнасці суддзяў і пракурораў, на безадказныя задумы, якіх дапускаецца Збігнеў Зёбра ў сваіх падведамасных праваных установах, Анджэй Дуда, прэзідэнт РП, моцна псуе сваю клятву.

Або прэзідэнцкі аўтарытэт. Бо як можна сцвярджаць, што ў Турцыі перамагла дэмакратыя, калі зачыняюць у турмах тысячы турэцкіх суддзяў і пракурораў на падставе падазрэнняў, меркаванняў у палітычнай варожасці? Путчысты, як ведаю, паўсталі супраць усё больш аўтарытарнай улады выбранага, нібыта ў дэмакратычных, але сумнiўна сумленных выбарах прэзідэнта. Толькі ці прэзідэнта, ці ўжо султана?! На іх думку, Эрдаган даўно здрадзіў прынцыпам дэмакратыі і большаснай волі выбаршчыкаў.

Ці можна назваць путчыстамі суддзяў і пракурораў? Путч — інакш ваенны пераварот. Сапраўды, другая палова арыштаваных гэта армейцы вышэйшага і больш нізкага рангу. Гэта тры тысячы салдат. Колькі іх, на самой справе, прымусам патаемна ўкінулі ў турму, невядома. Мабыць, два разы столькі ж. Некаторыя эксперты нават патройваюць гэты лік. Якая праўда, даведаемся, раней ці пазней. Так, як свет даведаўся занадта позна пра тысячы таемна забітых чылійцаў падчас кіравання хунты Пiначэта. Не кажучы ўжо пра тых, хто перажыў тэрор, пра дзясяткі тысяч закатаваных, згвалтаваных, збітых і звязаных у турму на працягу многіх гадоў без судоў. Тыя, аднак, калі Пiначэт быў выгнаны з краіны, далі сведчанне праўдзе.

Колькі ахвяр паглыне тэрор, развязаны ў Турцыі? Ва ўсякім выпадку, праціўнікаў цяперашняга прэзідэнта Эрдагана, якія паўсталі супраць недэмакратычнай улады, роўна столькі, колькі ён мае прыхільнікаў. Гэта больш-менш палова ўсяго грамадства. Аналогія з Польшчай відавочная. Тым не менш маштабы арыштаў у Турцыі жахлівыя. У Польшчы, пакуль што, па палітычных прычынах, цяперашняя ўлада нікога яшчэ не арыштавала. Але хто ведае, кіруючыся логікай турэцкага вопыту, ці да такіх палітычных эксцэсаў не дойдзе ў Польшчы? Адно можна сказаць напэўна — самасейны аўтарытарызм уладарыць па ўсёй Еўропе. Гэта выклікае раскол грамадстваў. Усіх дэмакратычных грамадстваў. І не сказана, што гэты працэс не запушчаны ўжо ў Польшчы.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# За нашу і вашу карову (2)

Пасля фельетона, які быў апублікаваны ў гэтай рубрыцы на мінулым тыдні, атрымаў я некалькі запытанняў, чаму менавіта гэта тэрмін «карова» замяніў слова «свабода» ў папулярным лозунгу. Паясняю, кожная калонка мае сваю колькасць знакаў, таму часам не хапае месца на дэталёвыя тлумачэнні. Інспірацыяй прымяніць тэрмін «карова» сталі для мяне маналогі ў вельмі папулярным, прыгодніцкім рамане Генрыка Сянкевіча «У пустыні і пушчы» (у маёй маладосці занесены ён быў у абавязковы спіс літаратуры для чытання). Адзін з герояў, малады негр па імені Калі, такім чынам тлумачыў сваю філасофію і гістарычную палітыку выжывання: «Тады, калі Калі ўкрадзе карову — гэта вельмі добра і справядліва, але калі для Калі ўкрадуць карову — гэта несправядлівасць і злачынства». Так менавіта ў тых самых простых разважаннях, на маю думку, скрываецца ў большасці сэнс палітычна-дзяржаўных узаемадачыненняў. А для гістарычнай палітыкі імперскіх дзяржаў такое мышленне — абавязковае і закладаецца ў галовы ўсіх грамадзян, да таго любымі спосабамі. Таму невыпадкова ўзнікаюць такія спрэчкі і жарсці паміж суседзямі ў поглядах наконт гістарычнай спадчыны. На жаль, як безупынна бачым, ваенная сцежка ці ж не самы просты спосаб вырашэння набалелых канфліктаў. Заваяваныя тэрыторыі і народы на працягу ўсёй гісторыі пераможцы лічылі месцам бязлітаснай эксплуатацыі. Адтуль таксама і прымаўка пра максімальнае рабаўніцтва — скарыстанне ўсяго залежнага да максімуму, быццам як гэтую ўмоўную «дойную карову». «Даіць» чужыя дзяржавы і народы так увайшло ў крыў некаторым палітыкам і міжнародным карпарацыям, што ў сваёй апантанасці роўна і без сумлення пачалі агольваць свае дзяржавы і народы. Але гэта тэма да зусім іншых разважанняў.

Вяртаемся менавіта больш канкрэтна на наш польска-беларускі панадворак. Пасля 1989 г. у Польшчы напрамкам, на які дзяржава скіравала асаблівa вялікія палітычныя і фінансавыя сродкі, аказаўся ўсходні напрамак у выглядзе рэкультывацыі і развівання міфа «ўсходніх крэсаў». На абсалютна ідэалістычным і бязгрэшным вобразе польскай цывілізацыі і панскага ўладарання некаторыя палітычныя сілы прапануюць весці нарацыю двухбаковых узаемадачыненняў. Трэба спадзявацца, што гэтыя погляды будуць разглядацца толькі ў катэгорыях палітычнага фальклору. Аднак даволі заўважнай і небяспечнай з'явай у польскай гістарычна-медыйна-адукацыйнай сферы з'яўляецца менавіта філасофія і ўжо, на жаль дзеянні, у стылі вышэйзгаданага негра Калі. Кранае яна, на жаль, усіх суседзяў Польшчы, а што затым ідзе, і нацыянальныя меншасці. Пачуццё патэрналізму балансуе небяспечна з ідэяй звароту да палітыкі падыходу да нацменшасцей як да заложнікаў інтарэсаў дзяржавы, а не паўнавартаснага грамадзянства.Тыдзень таму назад узгадваў я пра небяспечную раскрутку польска-ўкраінскіх узаемадачыненняў у сувязі з гадавінай валынскай разні. З міждзяржаўнага поля канфлікту перайшоў ён у Польшчы таксама на лакальны ўзровень, дзе польскай самаўрадавай адміністрацыяй у Пярэмышлі і некаторымі няўрадавымі арганізацыямі ў ролі ворага быў абвешчаны Саюз украінцаў у Польшчы. У штодзёнцы «Nasz Dziennik» ад 5 ліпеня 2016 г. журналіст газеты ў размове з доктарам Анджэем Запалоўскім, гісторыкам, акадэмічным выкладчыкам, экспертам па справах бяспекі і старшынёю Польскага геапалітычнага таварыства ў Жэшаве пра злачынствы ўкраінскага боку і бандэраўцаў прыводзіць, між іншым, і такое меркаванне суразмоўцы :

«(...) Polskie władze powinny w końcu powiedzieć Związkowi Ukraińców w Polsce wprost: dostajecie pieniądze na kulturę i oświatę oraz działalność mniejszości ukraińskiej w Polsce. Powinien pójść jasny sygnał, że jeśli te środowiska nadal będą promować treści godzące w polską rację stanu, to skończy się to delegalizacją związku".»

Пасля такіх слоў украінскія прадстаўнікі ў Супольнай камісіі ўрада і нацыянальных меншасцей хочуць неадкладнага яе экстраннага пасяджэння. Але большую заклапочанасць маюць улады: як адрэагаваць на такія выказванні. Ва ўсім тым найбольшымі прайгранымі, як заўсёды, будуць нацыянальныя меншасці. Прыйдзецца жыць і без сваёй кароўкі, і вяроўкі. Толькі так нам быць?

**Яўген ВАПА**

# Актыў у госці запрасіў

**Шаснаццаты раз прайшоў традыцыйны народны беларускі фэст «Бандароўская гасцёўня». Ладзіць яго актыў вёсак Бандары, Рыбакі і навакolля, на Падляшшы, у Міхалоўскай гміне, разам з Беларускім грамадска-культурным таварыствам, пры падтрымцы перш за ўсё Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Гміннага цэнтра культуры ў Міхалове, пажарнікаў і тутэйшых спонсараў. Фэст з'яўляецца працягам беларускіх фэстаў, якія ад дзесяцігоддзяў збіралі шматлюдную публіку тутэйшую і «зарэчанскую».**





Успамінаем свае хаткі, свае вёскі... Боўтрыкі, Гарбары, Рудню, Буды, Луку



Як кажа адзін з найбольш актыўных арганізатараў свята Віктар Бура родам з Рыбакоў, адзін з задумшчыкаў фэсту: «Гэтае беларускае свята ладзіцца, перш за ўсё, для людзей, якіх перасялілі ў Бандары з пяці вёсак, якія былі затоплены дзеля пабудовы Семяноўскага вадасховішча. У гэтым ліку — і мая асоба. — Між іншым я прыдумаў першы фэст. Прыходзіў сюды, сустракаўся з людзьмі. І вырашылі штосьці рабіць, каб людзі не сумавалі. І вось пачаліся тут спевы, беларускі фэст. Людзі прыязджаюць, ідуць на возера і дзівяцца тым месцам, дзе зараз бушуе вада,





успамінаюць свае хаткі, свае паселішчы». Старшыня БГКТ Янка Сычэўскі адзначае, што свята абапіраецца на традыцыю ды актыўнасць саміх бандароўцаў: «Гэтае асяроддзе абсалютна выключнае ў тым сэнсе, што асабліва актыўнае. Гэта асабліва гасціннае мерапрыемства».

— А гэта асабліва адданыя людзі, на якіх можна разлічваць у любой сітуацыі, — кажа солтыска Бандароў Марыя Бура. — Анна Хлябіч, Мікола Хлябіч, Мікола Хлябіч-старэйшы, Ян Бароўскі — наш радны, яго жонка Ірэна Бароўская, Марыя Хлябіч, Віктар Бура з жонкай Нінай, Ніна Млынэк, Раман Ляткоўскі з жонкай Алінай, Эва Хлябіч з мужам Яркам, Лявон Хлябіч з жонкай Вяславай, Ян і Зофія Хлябічы і іх сыны з Ольштына. Анна Хлябіч уключыла дачку сваю Олю з яе нарачоным... Сёлета далучылася да нас дырэктарка Дома сацыяльнай апекі Галіна Саковіч. Яе падапечныя, з абмежаваннямі, так хораша выступілі на нашай сцэне з прадстаўленнем пра самоту. Ну і нашы спонсары, якіх мы маем многа. Сёлета самі назбіралі мы грошай на запрошаных намі «Прымакоў».

Імпрэза пачалася яшчэ да канцэрту 16 ліпеня, які пачаўся ў 17 гадзіну. Моладзь займалася ў спартыўным блоку, гуляла ў агародзе гульняў. Яшчэ далёка да пачатку імпрэзы гледачы заселі на лавах амфітэатра, цікавіліся вырабамі рукадзелля, размаўлялі з творцамі, частаваліся стравамі рэгіянальнай кухні і чымсьці мацнейшым, дзетвара цешылася ласункамі, купляла цацкі, шары (якія пасля залуналі на хмарным небе). Словам, быў сапраўдны фэст, які прывабіў аматараў роднай песні з Гайнаўскага і Беластоцкага паветаў ды турыстаў з усёй краіны. Некаторыя турысты, як пані Агнешка з Сілезіі, у пошуках чыстай прыроды і спакою ўжо не першы раз прыязджаюць на Семяноўскае вадасховішча, і заўсёды з прыемнасцю карыстаюцца культурнай праграмай.

— Як добра што жыве ваша мова, бо ў нас слянзацкай ужо са свечкаю шукаць, — дадала турыстка, якая шукала твораў тутэйшых аўтараў на польскай мове, матэрыялаў пра Беласточчыну, каб паказаць у сваёй малой айчыне тутэйшыя своеасаблівасці. Заўсёды набывае ў Бандарах таксама вырабы нашых майстрых-рукадзельніц. Між іншым — таксама прыезджай, але ўжо свойскай Малгажаты Краўчык з Плянты, Галіны Бірыцкай з Плянты, Анны Кузьмы з Міхалова, Тамары Зубрыцкай з Гушчэвіны ці драўляныя вырабы сям'і Тарасэвічаў. А на фэст, вядомы ў Польшчы з календара летніх фальклорных мерапрыемстваў, прыязджаюць рукадзельнікі, напрыклад, з Любартова.

— Я раблю ўсё ў драўніне, — кажа Тамара Зубрыцкая. — Дэкупаж, маляванкі, выпалянкі... Выхвальваем роднае — Семяноўка, Белавежа... Перш за ўсё Нараўчанскую гміну. Навучылася я ад свайго мужа Толіка, калісь рабілі мы ў «Цэпэлію». Належу да Агратурыстычнага згуртавання «Белавежская пушча» ў Нараўцы, як пані Галіна і Малгажата, выдаем буклеты згуртавання....

— Калісь я сядзела дома і гафтавала, вышывала, баялася выязджаць, — заўважыла Анна Кузьма. — А калі прыйдзе час, калі пачынаюцца беларускія фэсты, карціць мяне, хочацца з'ездзіць, паказацца, беларускае слова і песню пачуць, палюбавацца гэтымі строямі. Проста — роднае свята.

Далучыліся да свята жыхары дома ў Гарбарах, паказваючы як умеўшы, а вельмі хораша, пастаноўку пра самоту (рыхтавалі іх Крыстына Дрозд і Аля Салавей) на тэксты свайго калегі Яна Ласкага, дэкламавалі і спявалі, і падарылі ўсім сабраным чырвоныя сэрцы. Хвалюючая пастаноўка калекіх людзей, які знайшлі прытулак пасярод буяючай прыроды, сярод добрых людзей, таксама вылучаных са свайго асяроддзя, шчымела сэрцы сабраных гасцей, нават тых, хто прыйшоў перш за ўсё пагуляць і патупаць.

На сцэне, за якой спелі нівы, перад якой красаваўся стол з фігурыстым пірагом-караваем, перад тысячнай публікай паявіліся беларускія калектывы, вядомыя з беларускай эстраднай і фальклорнай сцэны. «Ас», «Каласкі», «Лайланд» з Беластока, капэла «Хутар» і «Асенні ліст» з Гарадка, «Арт-Пронар» з Нарвы, «Рэчанька» з Козлік, «Оморфос» з Сямятыч, якія прадставілі па тры творы са свайго рэпертуару. Ну і «Прымакі», запрошаныя з цяжкасцямі (таму што яны цяпер не ў Міхалоўскай гміне?) самім бандарскім актывам, якія неспадзявана зрабілі цэлы канцэрт і не сыходзілі са сцэны пакуль не адспявалі належнае. Захапіў вакальна-харэаграфічны ансамбль «Белы птах» з Мінска пад кіраўніцтвам Вольгі Жышкевіч, не першы раз у нас бачаны і чуты. Усе гэтыя і іншыя калектывы можна будзе сустрэць на беларускіх фэстах на Беласточчыне. І не на адным такім свяце ўбачыце знаёмыя твары гледачоў — некаторыя ж аб'язджаюць усе мерапрыемствы, дзе пачуць можна родную песню.

— Паслухаеш родную песню — і жыць хочацца! — сказалі старажылкі на лавачцы пад бандароўскімі блёкамі.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## У чарзе па здароўе

Больш за паўтара года бадзяюся па лекарах — ад сямейнага пачаўшы, а закончыўшы на рознага роду спецыялістах. Тры разы ў гэтым годзе шпіталізаваўся — два разы ў гайнаўскім шпіталі, апошні раз — у беластоцкай клініцы. У мяне ногі не слухаюцца. Першапачаткова лячылі ад «змярцвення». А калі гэта не памагло, дык былі наступныя дыягназы: падагра, расшырэнне вен, дэгенерацыя пазваночніка. У час абследавання прасвяцілі мяне з ног да галавы. Выкарыстоўваў я рознага віду фармакалагічныя прэпараты. Без выніку. Доктар беластоцкай артапедычнай клінікі сказаў: «Здранцвенне ног па прычыне дэгенерацыі пазваночніка. А на гэта лякарства няма. Адно абязбольваючыя таблеткі». І ў гэтым мая праблема. Ад паўгода не выходжу на вуліцу. Па панадворку рухаюся пры дапамозе двух мыліц. І як тут вытрымаць у чатырох сценах актыўнаму ніўскаму карэспандэнту? Як тапельнік шукаю паратунку. Раяць мне падацца на санаторнае лячэнне. Падаў заяву ў Нацыянальны фонд здароўя. У абгрунтаванні сямейны лекар апісаў ход майго шматгадовага амбулаторнага лячэння і шпіталізацыі. У адказе ад 13 ліпеня НФЗ праінфармаваў: «На аснове прад'яўленай дакументацыі лекар-спецыяліст залічыў вас на санаторнае лячэнне дарослых па рэўматалагічных захворваннях. Па прычыне браку магчымасці рэалізацыі заявы ад 24.06.2016 г. вы занесены ў спісак чакаючых за нумарам 19 552. Прадбачаны тэрмін чакання — 19 месяцаў. За інфармацыяй аб ходзе рэалізацыі накіравання можна сачыць па інтэрнэце».

Вось, даражэнькія, як справы маюцца ў нашай дэмакратычнай дзяржаве з медыцынскай дапамогай. У чарзе па здароўе я вымушаны чакаць аж 19 месяцаў, бо перада мною чакае 19 551 пацыент. Ці дачакаюся гэтай прывілеі? Цяжка сказаць. А наконт нездароўя ног магу пакарыстацца адно народнай мудрасцю: «Цярпі душа, збаўлена будзеш».

**Уладзімір СІДАРУК**

## Час на кроплі

Ад нейкага часу не ўдаецца мне прачытаць „Нівы", як кажуць, ад першай да апошняй старонкі. Ну, кажуць тыя, хто яшчэ нешта чытае. Я „Ніву" пачынаю чытаць з другой старонкі: спярша чытаў фельетон Міраслава Грыкі, але да моманту, калі на старонках „Нівы" з'явіўся фельетон галоўнага рэдактара Яўгена Вапы. Міраслаў мне выбачыць нерашучасць чытача, але як тут не чытаць тэкстаў аўтара, які глядзіць на рэчаіснасць сваімі вачыма.

Але справа не ў тым, якія тэксты насамперш чытаю. Калі ўдасца мне прачытаць тэксты друкаваныя больш таўсцейшым шрыфтам, нават на шэрым фоне, то зусім не ўдаецца прачытаць дробненькі друк на белым фоне. Проста вочы пачынаюць балець. Яшчэ пры натуральным сонечным святле ўдаецца прачытаць допісы пастаяннага карэспандэнта „Нівы" Уладзіміра Сідарука, але дзе тут чытанне „ад вокладкі да вокладкі". Сапраўды вочы баляць, а не нейкая там адгаворка, каб не чытаць „Нівы". Ніякія кроплі для вачэй не памагаюць, вочы баляць і ўсё. Хто не хацеў бы даведацца, якія праблемы перададольвае ніўскі журналіст-падарожнік, вандруючы па сцежках і дарогах усходняй Беласточчыны, або што ў палескай глыбінцы робіць Ганна Кандрацюк? А тут дзень становіцца карацейшым, святла кожны дзень менш і менш, аж зробіцца зусім жменька. І як тут чытаць пры ненатуральным святле?

Меў я думку напісаць пра вельмі трапную заўвагу Юркі Буйнюка пра паэтаў у фельетоне „Быць паэтам" („Ніва" № 22), але можа іншым разам. Цяпер час на кроплі.

**Міхась КУПТЭЛЬ**

# Мастак,
## пра якога Крынкі забылі



**Да знакавых сучасных постацей, звязаных з Крынкамі, пра якія ведае, а прынамсі павінна ведаць большасць крынчан, можна залічыць Сакрата Яновіча. Тут дзейнічае фонд яго імя — Villa Sokrates. Некаторыя запомнілі прозвішча яўрэйскага рабіна Баруха Лаўскага, які быў аўтарам трактата «Minchat Baruch». Аднак ужо Раман Бурдыла, хаця раўнаваўся сваім талентам з гэтымі выдатнымі асобамі, цалкам забыты ў Крынках. Спадзяюся, што ненадоўга. У Кракаве яшчэ жыве ягоная сваячка, якая па сваім продку ўспадкавала не толькі мастацкі талент, але і ягоныя карціны, дзякуючы якім жыхары Крынак маюць магчымасць пазнаць выдатнага земляка. Вось, у пятніцу 15 ліпеня ў Гмінным асяродку культуры адкрылася выстаўка прац Рамана Бурдылы з Крынак.**



■ Сваячка мастака Паўліна Дуброўская-Даражынская і арганізатарка выстаўкі Люцына Юркевіч

Раман Бурдыла нарадзіўся 27 красавіка 1912 года ў Маскве. Пасля рэвалюцыі ў 1919 годзе разам з братам Уладыславам і бацькамі пераехаў да дзядоў у Крынкі. Тут вучыўся ў мясцовай пачатковай школе, пасля якой працягваў вучобу ў Гародні. Ужо тады Раман выявіў сваё захапленне жывапісам. У 1935 годзе вырашыў паступіць у Акадэмію мастацтва ў Варшаве. Далейшыя навучальныя планы Рамана перапыніла вайна, якая заспела яго ў Крынках. Амаль тры гады малады мастак правёў у лагерах для інтэрнаваных польскіх жаўнераў у Ракішках, Вілкавышках і Суздалі, скуль трапіў у Армію генерала Андэрса. З ёю прайшоў цэлы баявы шлях, завершаны гераічнай смерцю ў бітве пад Монтэ-Касіна.

У пятніцу 15 ліпеня ў Гмінным асяродку культуры ў Крынках была адкрыта выстаўка карцін Рамана Бурдылы — забытага мястэчкам мастака. Выстаўка з'яўляецца суцэльнай цэласцю, якая адлюстроўвае не толькі творчы, але і жыццёвы шлях мастака. Гэта рысункі, зробленыя алоўкам эскізы, якія захапляюць сваёй прастатой і адначасна адлюстроўваюць вялікі талент мастака. Адкрываючы выстаўку, працаўніца Гміннага асяродка культуры Люцына Юркевіч падкрэсліла, што падрыхтоўка да таго, каб у Крынках адкрыць выстаўку карцін Рамана Бурдылы, пачалася ўжо некалькі гадоў таму. Пасля перамоў з рознымі людзьмі, укамплектавання так вялікай калекцыі работ мастака, сёння можна пазнаць хаця часціну творчасці крынчаніна. Хаця Раман Бурдыла ў Крынках правёў няшмат гадоў, на яго карцінах былі таксама размаляваны пейзажы з родных ваколіц.

— Выстаўка накіраваная на тое, каб адкрыць для сябе працы і постаць вялікага майстра. Гэта добрая нагода, каб Бурдылу вярнуць належнае яму месца, — сказала ў час адкрыцця выстаўкі Люцына Юркевіч. — Выстаўка вельмі важная, яна аддае мастаку належнае месца. Ён на сваіх карцінах размаляваў не толькі сваю гісторыю, але гісторыю і падзеі важныя ў маштабе свету.

Паўліна Дуброўская-Даражынская, сваячка Рамана Бурдылы, так як яе продак, закончыла Акадэмію мастацтва ў Кракаве. Дзякуючы яе да сёння захавалася шмат карцін Бурдылы. На адкрыцці выстаўкі прызналася да таго, што сама належным чынам ацаніла працы і мастацкі талент Рамана сама тады, калі рыхтавалася да ўступных экзаменаў у акадэмію.

— Як склаўся б лёс майго продка, каб ягонае жыццё не абарвалася падчас бітвы за Монтэ-Касіна? У яго працах раскрываецца велізарны творчы патэнцыял, — сказала мастачка Паўліна Дуброўская-Даражынская. — Ягоныя карціны маюць не толькі мастацкую вартасць, але і гістарычную. На іх адлюстраваная цэлая бадзяжная дарога з Арміяй Андэрса.

Выстаўка ў Крынках гэта не першая прэзентацыя прац Рамана Бурдылы. Яшчэ пры яго жыцці ў студзені 1944 года ў Каіры была наладжана калектыўная прэзентацыя прац, на якой апынулася каля чатырохсот карцін жаўнераў-мастакоў. Сярод іх былі эскізы Рамана Бурдылы. Ужо пасля яго трагічнай смерці ў бітве пад Монтэ-Касіна ў Рыме была наладжана выстаўка карцін творчых змагароў. Гэтая падзея была выключная таму, што ўпершыню тыя ж працы былі падддадзены грунтоўнаму аналізу мастацтвазнаваў. Творчасць Рамана Бурдылы набліжае таксама апублікаваная да 70-годдзя бітвы пад Монтэ-Касіна манаграфія пад загалоўкам «Artyści Andersa. Continuita e novita», у якой аўтар прафесар Ян Віктар Сянкевіч піша: «Trzeba było siedmiu dziesięcioleci od zakończenia drugiej wojny światowej, by rozpoczął sie właściwy proces odzyskiwania dla polskiej kultury XX wieku dorobku artystycznego, zapomnianych w powojennej PRL-owskiej rzeczywistości artystów spod skrzydeł Władysława Andersa. Zostali oni świadomie pominięci w powojennych opracowaniach dziejów sztuki polskiej, czyniąc je amputowanymi o ogromny i cenny pod względem artystycznym dorobek twórczy. A jednym z tych artystów jest Roman Burdyłło».

Падабраныя сваячкай мастака Паўлінай Дуброўскай-Даражынскай і Люцынай Юркевіч працы, якія можна паглядзець на выстаўцы, адмыслова пачынаюцца з карцін размаляваных яшчэ ў міжваенных Крынках. Пазнейшыя працы вядуць нас праз лагеры ў далёкую дарогу з Арміяй Андэрса пад Монтэ-Касіна.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# Турыстычныя значкі

**Інфармацыя ініцыятара прапагандавання турыстычных месцаў у Орлі і Бельску-Падляшскім Дар'юша ГАРАДЭЦКАГА, арлянскага настаўніка родам з Ланьцута.**




Ідэя турыстычных значкоў узнікла 18 гадоў таму ў Чэхіі. Два скаўтаўскія інструктары задумалі заахвоціць маладых людзей да азнаямлення з цікавымі аб'ектамі сваёй краіны і дзеля гэтай мэты рашылі выразаць драўляныя кружкі, а на іх звычайнай выпальваркай наштрыхаваць нейкі элемент краявіду ці архітэктуры. І тыя значкі прапанавацьпобач паказаных на іх аб'ектаў. І сапраўды, турысты, якія апыналіся побач такіх месцаў, сталі сабе купляць такія сувеніры. Паколькі тая ініцыятыва спрацавала, тыя два інструктары задумалі распаўсюдзіць сваю ідэю па ўсёй краіне.

Маё знаёмства з гэтай справай пачалося выпадкова, калі я разам з сям'ёй быў у Тчэве на агульнапольскай сустрэчы філатэлістаў. І там адзін з удзельнікаў паказаў некалькі значкоў, прысвечаных чыгунцы; было гэта восенню 2014 года. Я тады купіў першы такі значок. У мінулым годзе наша сям'я праводзіла канікулы ў Клодзкай катлавіне і я вырашыў сабраць там крыху значкоў. Некалькі разоў падаліся мы ў Чэхію. Мяне ўразіла, што ў цэнтры кожнай невялікай мясцовасці, такой як Орля, знаходзіўся пункт турыстычнай інфармацыі, дзе было мноства турыстычных карт, буклетаў і турыстычных значкоў; апрача значкоў чэхі прапануюць таксама бэджы для ўклейвання і наклейвання.

І я тады ўсвядоміў сабе, што такія невялікія мясцовасці, у якія мала хто заглядаў бы, такім чынам прамуюцца, паказваюць сябе навонкі. Калі я вярнуўся, падаўся ў Фонд аховы спадчыны Бельскай зямлі, дзе я дзейнічаю, і там прадставіў прывезеныя значкі і запрапанаваў рабіць такое ж і ў Бельску. Бо да гэтай пары ў Падляшскім ваяводстве такія значкі прапанавалі толькі чатыры суб'екты: Белавежскі і Бобранскі нацпаркі, горад Драгічын ды Музей сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы.

Ідэя выспявала паволі і ў пачатку бягучага года наш фонд падаў бургамістру Бельска заяўку на дафінансаванне праекта папулярызацыі Бельскай зямлі з прымяненнем турыстычных значкоў. Атрымалі тры тысячы злотаў, даклалі ад фонду больш за тысячу і дзякуючы гэтаму маглі выпусціць у свет чатыры значкі. А чаму ў свет? Бо зараз ідэя ахоплівае дваццаць краін. Усе значкі выконваюцца ў Чэхіі, цэнтр у гарадзе Рымажаве. Спярша трэба было прасіць згоду ва ўладальнікаў аб'ектаў, але з гэтым не было клопату. Было паразуменне з бацюшкам Лявонціем Тафілюком, з бельскім каталіцкім дэканам, з бургамістрам Яраславам Бароўскім. Ідэя значкоў такая, што прадаюцца яны ў месцах, якія прадстаўляюць. Гэта такі магніт, які мае прыцягнуць турыстаў. А ўся інфраструктура з гідамі, картамі і т.п. залежыць ад уладальнікаў аб'ектаў ды рэгіянальнага актыву.

Праект быў напісаны ў студзені і з таго часу было праведзена шмат дзеянняў па яго папулярызацыі. Гэта была мая ініцыятыва, але працавала больш асоб. Быў зладжаны пластычны конкурс для дзяцей пачатковых школ і найлепшая праца была надрукавана на паштоўцы.

У Орлі войт таксама дафінансаваў праект; адзін значок паказвае царкву, другі — сінагогу. Калі прыязджаюць турысты, тады па тэлефоне могуць дамовіцца: пра царкву раскажа бацюшка Жукавіцкі, а пра сінагогу дырэктар Гміннага асяродка культуры.

Значкі не лакіраваны, бо яны не для завешвання на шыі. Найважнейшая экалогія, яны з натуральнай драўніны і толькі выпаленыя.

Нядаўна былі ў мяне калегі з Тчэва, якія ў Орлю прыехалі спецыяльна па гэтыя два значкі. Наш рэгіён новы для іх. Бацюшка гадзіну апавядаў ім пра мясцовы канфесійны краявід, атрымалі кніжачкі і выехалі з Орлі задаволеныя, бо прыслалі мне мэйлы. Пабачылі сінагогу і паехалі яшчэ ў Белавежу.

На сённяшні дзень у Падляшскім ваяводстве ёсць толькі адзінаццаць месцаў паказаных на турыстычных значках, у іх ліку два ў Орлі і чатыры ў Бельску. Зусім нядаўна свой значок выпусціў горад Гайнаўка. А ў краіне іх амаль паўтысячы. Найбольш значкоў на поўдні і захадзе краіны, бо там людзі ведаюць, што значкі прыцягваюць турыстаў, а з імі і грошы.

Спадзяюся, што Арлянская гміна выпусціць яшчэ значок з найпрыгажэйшай на Падляшшы царкоўкай у Шчытах.

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Беларусы разам з кітайцамі ў Седльцах вучацца польскай мове

У Прыродна-гуманітарным універсітэце ў Седльцах пачала дзейнасць XVII Летняя школа польскай мовы і культуры. Вучыцца ў ёй 65 чалавек з 14 краін, у тым ліку 10 беларусаў. Ігар Жалткоў сказаў «Ніве», што ўдзел у занятках летняй школы стварае яму магчымасць павышэння ўзроўню прафесійнага валодання польскай моваі. Ён — перакладчык, энтузіяст польскай культуры. У Седльцах будзе ўдасканальваць свае ўмеласці. Сказаў ён, што «Польшча заўсёды была для нас дзвярамі ў Еўропу. Геаграфічнае распалажэнне Беларусі такое, што часткова адной нагой знаходзімся на Усходзе, а другой — на Захадзе. Веданне польскай мовы для нас асабліва важнае. Гэта дапамагае нам захаваць традыцыйную шматкультурнасць Беларусі». Дадаў яшчэ, што цікавіцца жыццём беларусаў у Польшчы. З зацікаўленасцю бярэ ў рукі «Ніву», якая паводле яго меркаванняў, сімвалічна аб'ядноўвае беларусаў па-над межамі. Ён упэўнены, што дзякуючы ніўскім артыкулам можна многа даведацца аб беларускай гісторыі, традыцыях і культуры. Ганна Грыдасава ў сваю чаргу праз пасрэдніцтва польскай мовы шукае магчымасці лепшага вывучэння і зразумення літаратурных узаемасувязей, таксама ў кантэксце супольнага будучага. Адзначыла таксама, што свабоднае валоданне беларускай і польскай мовамі — гэта ключ для ўказання двухбаковага ўзаемадзеяння культур.


Беларускія ўдзельнікі XVII Летняй школы

Загадчыца XVII Летняй школы польскай мовы і культуры д-р габ. Беата Валянцюк-Дайнека падкрэсліла, што для ўдзелу ў занятках былі адабраны самыя лепшыя студэнты факультэтаў польскай філалогіі з сваіх універсітэтах або ўдзельнікі курсаў польскай мовы. У Прыродна-гуманітарным універсітэце ў Седльцах замежныя студэнты вучацца ў рамках праекта Міністэрства навукі і вышэйшай школы ды Бюро па прызнанні адукацыі і міжнародным абмене. Рэктар ПГУ праф. Тамара Захарук звярнула ўвагу, што моладзь атрымлівае не толькі новыя моўныя навыкі, але таксама пашырае свой вопыт функцыянавання ў шматкультурным асяроддзі. Прыехалі менавіта прадстаўнікі Кітая, Малдовы, Казахстана, Расіі, Украіны, Беларусі, Францыі, Грузіі, Балгарыі, Славакіі, Чэхіі, Харватыі, Бельгіі і Сербіі. Знаёмяцца яны з Польшчай, яе разнароднасцю, а таксама прадстаўляюць свае краіны. Тут завязваецца сяброўства на доўгія гады, што напэўна будзе карысным таксама ў прафесійным жыцці, — сказала праф. Захарук.

**Адам БОБРЫК**

# Канікулы ў арлянскім ГАК

**Інфармацыя Анны НЕСЦЯРУК, дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі.**

Канікулы ў Гмінным асяродку культуры ладзім каля дзесяці гадоў. Спачатку былі майстар-класы, прыходзіла некалькі дзяцей. Пазней мы сталі ладзіць два тыдні летніх канікул і два тыдні зімовых. І цяпер тых дзяцей збіраецца каля сарака: ад чатырохгадовых да шасцікласнікаў; займаюцца з імі пяць апякунак. У наступным годзе хочам нешта арганізаваць і старэйшым дзецям, бо яны прыходзяць у ГАК і пытаюць, ці нешта і для іх маем. Плануеа адзін тыдзень заняць малых дзяцей, а другі старэйшых з рознымі тэматычнымі планамі.

У нас з году ў год штораз больш таких дзяцей, і гэта не так, як некаторыя кажуць, што яны прыязджаюць — зараз такіх толькі трое, якія прыехалі з Беластока да сваіх дзядкоў, а апошнія — усе з Орлі. Ёсць некалькі новых сем'яў, якія прыехалі ў Орлю і іх дзеці будуць вучыцца ў нашай школе.



Стараемся арганізаваць дзецям заняткі на месцы і выязджаць, бо, як гэта дзеці — не любяць сядзець у адным месцы. У першым тыдні арганізавалі паездку ў Музей малой айчыны ў Бельск, дзе паглядзелі даўнія хаты і даўнія вясковыя танцы. Выязджалі таксама ў кіно ў Беласток; шкада, што няма кіно ні ў Гайнаўцы, ні ў Бельску, бо было б бліжэй. Праводзім і спартыўныя заняткі на мясцовай пляцоўцы „Орлік". І пластычныя заняткі арганізуем — сёлета ўключылася да гэтай ініцыятывы арлянскае аддзяленне Кааператыўнага банка ў Бельску, прапануючы конкурс на прамацыйны плакат сваёй установы, з узнагародамі. У другім тыдні выязджалі ў канатны парк у Дакторцах, дзе дзеці азнаёміліся з узыходжаннем па канаце. Ладзілі таксама вогнішча. На заканчэнне канікул арганізуем пікнік з уручэннем узнагарод ад пластычных конкурсаў, прыязджаюць да нас аніматары з Беластока, привозячы надуўныя з'язджальні ды розныя дзіцячыя гульні.

Нашы канікулы доўжацца два тыдні ў гадзінах з дзясятай да чатырнаццатай. Меншых дзяцей прыводзяць і забіраюць бацькі, старэйшыя дзеці прыходзяць самі. Не збіраем ніякіх аплат, транспарт запэўнівае нам гміна, а патрэбныя білеты аплачваюць бацькі. Для харчавання не маем умоў.

Чатыры гадзіны гэта менш чым у школе, аднак у нас заняткі вельмі насычаныя. Дзеці розныя і найцяжэй з імі ў першыя дні, бо ім здаецца, што тут будзе так як дома. Іх многа і яны мусяць выконваць нашы арганізацыйныя патрабаванні ды супрацоўнічаць з сабою без агляду на ўзрост. А пасля некалькіх дзён усё ўладжваецца. Я заўсёды сур'ёзна стаўлюся да дзяцей, бо гэта наша будучыня. Я заўважыла, што дзеці, якія ў нас займаюцца, пасля вяртаюцца да нас як мастакі, як культурныя людзі, якія канчаюць штудыі і могуць нам прынесці новыя вартасці. І гэта вельмі каштоўнае.

Калі дзеці змалку ведаюць, як у ГАК можна файна правесці час, то яны ў ходзе навучальнага года прыходзяць да нас на арганізаваныя намі ўік-эндавыя заняткі. З імі завязваецца такая сувязь і бацькі ахвотна пасылаюць дзетак на ладжаныя намі заняткі з народнымі творцамі ды іншымі людзьмі, якіх запрашаем звонку. Таксама ездзім з дзецьмі ў іншыя асяродкі культуры, каб яны пабачылі чым займаецца моладзь у іншых гмінах, а гэта развівае іх культурны гарызонт на будучыню.

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Спыніць варожасць!

Свет вельмі вялікі. У ім жывуць мільёны людзей. Некаторыя з іх пераязджаюць уздоўж і ўшыр зямнога шара ў пошуках лепшага жыцця. Але не заўсёды яго знаходзяць.

Думаю, што людзі падзяляюцца на дзве групы. Адны вельмі адкрытыя на іншыя культуры і рэлігіі. На жаль, ёсць і такія, якія не паважаюць іншых. Іх многа. Нават у нас, на тэрыторыі, дзе ад стагоддзяў жывуць побач з сабой палякі і беларусы ці іншыя нацыянальнасці.

Ад нейкага часу ў нас стала шумна пра людзей, якія з'яўляюцца прыхільнікамі аднанацыянальнай краіны — ідэі «Польшча для палякаў». Такія людзі не ўсведамляюць сабе складанай гісторыі нашых зямель. На маю думку, трэба размаўляць з такімі людзьмі, таму што недахоп размовы вядзе да яшчэ большай варожасці. Цяжка жыць сярод людзей, які глядзяць на цябе ваўком!

**Ева ІВАНЮК**, *„Зорнымі вачыма"*




Ева Іванюк, Наталля Васько, Іван Карсунскі



Рэдакцыя «Зорнымі вачыма»

## Узнагарода за беларускую мову

Праходзяць дні, месяцы, а маладыя людзі ўвесь час чакаюць чэрвеня. Канчаецца школьны год і пачынаюцца Сустрэчы „Зоркі". Цэлы тыдзень у Новым Ляўкове праходзяць майстар-класы для маладых журналістаў, рысавальшчыкаў, фатографаў ды паэтаў. Часта трэба цяжка працаваць увесь год, каб атрымаць запрашэнне на гэтае мерапрыемства. У час Сустрэч адбываюцца заняткі з асобамі, якія з'яўляюцца аўтарытэтамі ў сваёй галіне. Удзел у Сустрэчах „Зоркі" з'яўляецца цудоўнай узнагародай за цяжкі і працавіты навучальны год.

**Наталля ВАСЬКО,** „Зорны шлях"

## Вёсачка

Вёсачка — найлепшае месца на зямлі.
Паветра, вада, звяры — усё памагае табе.
Без паветра няма нічога.
Толькі чыстае, свежае паветра гэта...
падарунак ад нашага Бога.

Без вады ніхто не перажыве.
Нават малы дождзжык
вельмі многа дае.
Кожны чакае дажджу —
Малая кветка і дзіця ў акне.

Без звяроў — як бы гэта было?
Пчолка — мёд,
кароўка — малако,
курачка — яйкі,
сабачка — сябра і вартавы.

*«Парнасік»*, **Оля САЛАВЯНЮК**




## Людзі Падляшша

**(адукацыйная гульня з „Нівай")**

**Спалучы прозвішча з працай і дасягненнямі**

— Міра Лукша
— Яўген Вапа
— Віталь Луба
— Ян Тарасевіч
— Яніна Чарнякевіч
— Эдвард Гарштынскі
— Ганна Кандрацюк

**Варыянты:**

— лаўрэат Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы
— рэдактар „Зоркі"
— аўтар кнігі „Жывінкі з глыбінкі"
— галоўны рэдактар „Нівы"
— першы рэдактар „Зоркі"
— мовазнавец, рэдактар кніжкі „Бежанства 1915 года"
— геніяльны кампазітар, народжаны ў Саколцы (1893-1961)

*„Зорнымі вачыма"*, **Оля БУСЛОЎСКАЯ, Агнешка ЗДАНОЎСКАЯ**

# «Ніва» мяняецца з часам

## Гутарка-інтэрв’ю з ВІТАЛЕМ ЛУБАМ, намеснікам галоўнага рэдактара „Нівы”.

**„Парнасік”:** — *Чаму Вы перавыдалі кніжку „Бежанства 1915 года”?*

**Віталь Луба:** — Была такая патрэба. Першае выданне, якое паказалася ў 2000 годзе, разышлося і людзі шукалі гэтай кнігі. Тэлефанавалі чытачы з цэлай Польшчы. Мы падумалі, што да сотай гадавіны бежанства трэба яе перавыдаць. Такім чынам паўстала кніжка папоўненая некаторымі матэрыяламі.

**П.:** — *Вы шмат гадоў звязаны з „Нівай”. Як выглядалі Вашы пачаткі ў газеце?*

**В.Л.:** — Я прыйшоў у „Ніву” ў 1988 годзе, калі ёй было 32 гады. На пачатку журналісты пісалі артыкулы ўручную, працавалі машыністкі, якія перапісвалі тэксты. Машынапісы везлі ў друкарню. Там тэксты набіралі лінатыпісты. Вытворчы працэс аднаго нумара працягваўся два тыдні. Затым газета трапляла да чытачоў, нават у далёкія вёскі. Быў іншы састаў рэдакцыі. Калі я пачаў працаваць у рэдакцыі, тады з „Нівы” адышоў Георгій Валкавыцкі, пасля Міхась Хмялеўскі і іншыя. У гэты перыяд у нашай краіне адбыліся вялікія палітычныя змены, наступіў вялікі тэхналагічны прагрэс. Гэта быў таксама час вялікай актыўнасці маладых людзей на старонках газеты. Яны пісалі пра справы, якія несла жыццё. Узніклі розныя беларускія арганізацыі. Нашы журналісты былі заангажаваныя ў дэмакратычныя перамены ў краіне. Старонкі газеты былі адкрытыя для ўсіх. Часам здараліся канфлікты паміж маладымі „рэвалюцыянерамі”, а старым пакаленнем журналістаў.

**П.:** — *Ці будучы ў нашым узросце Вы пісалі ў „Зорку”, ці падпісваліся на яе?*

**В.Л.:** — Не, я нарадзіўся ў гэтай частцы Падляшша, дзе ў школе не было беларускай мовы. Беларускую мову я пачаў вывучаць у ліцэі, тады пачаў чытаць „Ніву”.

**П.:** — *Якія тэксты Вы рэдагуеце з найбольшай прыемнасцю?*

**В.Л.:** — Гістарычныя. Я з’яўляюся карэктарам „Беларускага гістарычнага зборніка”. Я закончыў беларускую філалогію, але адзін год вучыўся на гістарычным факультэце.

**П.:** — *Якую ролю, паводле Вас, у „Ніве” адыгрывае „Зорка”?*

**В.Л.:** — Гэта важная справа, так было ад самога пачатку. „Зорка” дае магчымасць для актыўных дзяцей публікаваць свае творы. Як „Ніва” важная для дарослых, так „Зорка” важная для дзяцей. Калі паглядзім на публікацыі беларускіх дзеячаў, амаль усе пачыналі з „Зоркі”.

**П.:** — *Ці рэдакцыя „Нівы” плануе наступныя кніжкі, над чым зараз працуеце?*

**В.Л.:** — Мы выдалі больш за 50 кніжак. Апошнім праектам з’яўляецца пераклад кніжкі „Бежанства 1915 года” на польскую мову.

**П.:** — *Сёлета святкуем 60-годдзе „Нівы”. Ці на працягу гэтых гадоў „Ніва” памяняла характар?*

**В.Л.:** — Калісь на змест „Нівы” вялікі ўплыў мела цэнзура. Калі перастала дзейнічаць, мы сталі пісаць пра дагэтуль забароненыя тэмы, друкаваць вершы паэтаў-эмігрантаў, ладзіць кантакты з беларусамі на Захадзе. Пачалі таксама закранаць беларускія тэмы міжваеннага і ваеннага перыяду. Можна сказаць, што „Ніва” мяняецца з часам. Нашай мэтай заўсёды было апісваць жыццё беларусаў у Польшчы, іх актыўнасць ва ўсіх галінах дзейнасці. Дзякуючы карэспандэнтам мы змаглі запісаць многія падзеі ў вёсках на Падляшшы.

**П.:** — *Нам здаецца, што Вы любіце сваю працу. Ці з прыемнасцю ходзіце ў рэдакцыю „Нівы”?*

**В.Л:** — Люблю сваю працу і ніколі яе не памяняю. Я ўжо пенсіянер.

**П:** — *Адной з самых важных тэм „Нівы” з’яўляецца бежанства. Скажыце, як Вы сабралі столькі ўспамінаў?*

**В.Л.:** — Тэма бежанства паяўлялася ў „Ніве” ад самога пачатку. Калі галоўным рэдактарам стаў гісторык Яўген Мірановіч, ён прыкмеціў, што тэма бежанства не існуе ў гістарычнай літаратуры. А яна для беларусаў вельмі важная. Прафесар Мірановіч рашыў запоўніць гэты прабел. Ён выправіў журналістаў збіраць успаміны людзей, якія вярнуліся з бежанства або запамяталі сямейныя расказы. Сабраныя матэрыялы мы папоўнілі допісамі з ранейшых нумароў „Нівы”. У другім выданні змешчаны 168 гісторый бежанцаў.

**П.:** — *Што для Вас было найцікавейшым, калі рэдагавалі гэтую кніжку?*

**В.Л.:** — Цікавым было назіранне, што калі нашы людзі апынуліся ў глыбі Расіі, іх лічылі вельмі адукаванымі. Яны ўмелі чытаць і пісаць. Нашы людзі заўважылі розніцы ў побыце, абрадах, харчаванні, напрыклад, там амаль не спажывалі бульбы, елі толькі белы хлеб. Запамяталіся таксама лісты бежанцаў да родных. У пачатку бежанства пошта дзейнічала нармальна, лісты даходзілі да адрасатаў.

**П:** — *Дзякуем за размову!*

**Гутарку апрацаваў**
**Максім Фіёнік**

Малюнак Олі Яроцкай

## Вершы Віктара Шведа

### „Бязмежнае” каханне

— Набіў цябе я, мой сынок,
Таму што я цябе кахаю.
Табе хай будзе гэта ўрок,
Што да цябе пашану маю.

— Прыводзіць мяне
гэта ў здзіў,
Ў жыцця майго перыяд ранні.
Татка, дык я не заслужыў
На толькі ад цябе кахання.

### Напужаўся

Летняю парою
Знайшоўся за мяжою.
Была ж там уцеха!
На слані я ехаў.

Быццам гэта ігры,
Беглі за мной тыгры.
Ўсе страхі адляцелі
Сышоўшы з каруселі.

## Польска-беларуская крыжаванка № 30-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 26:
Лозунг: Сустрэчы „Зоркі”.

Узнагароду, набор аздобнай паперы, выйграла **Кацярына Касько** з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Siano | | | | | Nie / Dzban | | | | |
| Art | | Serce | | Kwas | Ser | Bank / Jaź | | Nieznajomy / Dunaj | |
| | | | Ksiądz / Smok | | | | | | |
| Nika | | Świerszcz | | | | | | | |
| | | Marsz / Na | | | | | Na / Mech | | |
| | Nos | | | | | Moje | | | |
| | | | | Krok | Sejm | | | | |
| | Noc | | Słuch | | | | | | |

# З Орлі ў Алтайскі край

**Пачатак ссылкам грамадзян Польшчы, у тым яўрэяў і праваслаўных жыхароў Беласточчыны, даў падпісаны 23 жніўня 1939 года пакт Рыбентроп — Молатаў. Спярша гітлераўскае войска ўварвалася ў Польшчу, а неўзабаве яе мяжы перакрочыла армія Сталіна.**



Фота з асабістага фонда Дануты Кавальскай

Тадэвуш і Марыя Врублеўскія з дзяцьмі: Веславам і Данутай

З Орлі ў Сібір саветы вывезлі пяць сем'яў: сям'ю войта Багдана Ваньковіча, сям'ю паліцэйскага Гжыбка, сям'ю загадчыка школы Врублеўскага, сям'ю ўладальнікаў кафлярні жыдоў Вайнштэйнаў ды, надзіва, адну бедную праваслаўную сям'ю Кола — 70-гадовых бацькоў, дачку і двух сыноў; бадай з тае прычыны, што адзін з тых сыноў не хацеў жаніцца з мясцовай дзяўчынай па прозвішчы Герасімюк, з якою ён крыху хадзіў. Справе вывазкі ў Сібір і арыштаў няслаўна прыслужыліся мясцовыя актывісты, у іх ліку і некаторыя яўрэі.

Ссылаючы ў Сібір, саветы мелі за мэту пакаранне, не ўсведамляючы, што такім чынам некаторым ратуюць жыццё. Парадаксальна тое, што з цячэннем гадоў аб тых падзеях можна даведацца больш. Людзі на схіле свайго жыцця становяцца больш адкрытымі, а некаторыя ссыльныя пішуць мемуары. Мне ўдалося дайсці да ўспамінаў сям'і Врублеўскіх ды яўрэйскай сям'і Вайнштэйнаў.

Тадэвуш Врублеўскі (1895-1954) быў загадчыкам арлянскай школы ў 1921-1941 гадах. Атрыманы ім за ўдзел у польска-бальшавіцкай вайне Крыж Незалежнасці стаў зачэпкай для арышту энкавэдыстамі цэлай ягонай сям'і ў чэрвені 1941 года. Врублеўскага ў ходзе ўрачыстага заканчэння навучальнага года выдаў мала́ды яўрэй, былы вучань.

Тадэвуш трапіў у беластоцкую турму, з якой быў вызвалены пасля нападзення гітлераўцаў на саветаў. Марыя Врублеўская, настаўніца (1902 года нар.), са сваёй маці Кацярынай (1873), дачкой Данутай (1925) ды сынам Веславам (1928) былі дэпартаваны ў глыбінку Савецкага Саюза — у Бійск у Алтайскім краі (там жа быў і Войцех Ярузельскі). Перажываюць ссылку і ў траўні 1946 года вяртаюцца ў Польшчу, але не ў Орлю, толькі на сваю радзіму ў Паднебылі, што каля Кросна ў Галічыне. Тыя падзеі так успамінала Данута Кавальская...

20 чэрвеня 1941 года каля 2-3 гадзіны ночы загрукаталі ў дзверы нашай кватэры (у школьным будынку, дзе зараз каталіцкі касцёл). У кватэру ўвайшло некалькі мужчын у энкавэдысцкіх мундзірах; адным з іх быў вучань маіх бацькоў Канстанцін Мураўскі. Гадзіну раней мама з сяброўкай паехалі фурманкай у Бельск. Мураўскі паехаў матацыклам па маму. Правялі рэвізію і хаця нічога не знайшлі, арыштавалі бацьку. Нам загадалі пакавацца. Мы былі вельмі ўстрывожаны, я была хворая. Вестка пра наш вываз разнеслася па Орлі. Бацькі былі паважанымі і ўсе нам спачувалі. Прыходзілі развітацца, кожны нешта прынёс на дарогу (хлеб, шмалец, цукар...).

З Орлі выехалі грузавіком. Пад вечар падалі таварны цягнік з быдлячымі вагонамі. З абедзвюх старон нары, у куце пратуліна для прыбіральных мэт. У вагоне ехалі жанчыны, мужчыны і дзеці, разам каля сарака асоб. Засунулі дзверы, у вагоне стала цёмна. Дачапілі паравоз і цягнік рушыў. Цяжка апісаць, што дзеялася ў вагоне — плач, спеў набожных песень і малітвы. Усё гэта злівалася ў жахлівае рыданне.

Цягнік пачаткова ехаў няспешна. Па дарозе дачаплялі вагоны і склад налічваў семдзесят вагонаў поўных людзей. У Мінску доўга стаялі на запасным пуці. Каля вакзала нямецкія самалёты скінулі некалькі бомб. Цягнік наш рушыў і гнаўся вельмі хутка. Стаяла спёка, нам скончылася яда і вада. На адной станцыі машыніст іншага поезда падаў нам крыху тлустай вады з паравоза. У вагоне ехала маці з немаўлём.

Кожны вагон вартаваў адзін узброены жаўнер, якіх мы называлі анёламі; і так да іх звярталіся, просячы каб адвароваліся ў іншы бок і не глядзелі, як дзеткі звонку падавалі нам цераз акенца ваду і неабходныя тавары, сумленна купленыя за нашы грошы. Канваіры спачувалі нам, людзі на вакзалах не баяліся падыходзіць да вагонаў. Цягам двух тыдняў падарожжа тры разы далі нам нейкую баланду. Кожнай раніцы канваіры адкрывалі дзверы і пыталі пра памерлых; у нашым вагоне нябожчыкаў не было.

На адной станцыі атрымалі газеты і даведаліся, што 22 чэрвеня Германія напала на Савецкі Саюз. Ноччу пераехалі Урал; цераз акенца і шчыліны бачылі зарыва над металургічнымі заводамі. Былі ўжо ў Азіі, ехалі бязмежным стэпам. Па амаль двух тыднях даехалі да Новасібірска. Там цягнік падзялілі на дзве часткі: адна паехала на поўнач, другая — з намі — на поўдзень. Мэтай падарожжа быў Алтайскі край; поезд завёз нас у Бійск. Адтуль ссыльных развезлі грузавікамі па саўгасах, па некалькі сем'яў. Мы трапілі ў Катунь, недалёка мяжы з Манголіяй. Найбліжэйшы горад быў сто кіламетраў ад нас, а зусім недалёка была прыгожая алтайская мясцовасць Айрат-Тура. Саўгас Катунь быў пастаўлены на вытворчасць малака і мяса. Цягам лета жывёла і работнікі прабывалі ў стэпе. Іншая частка работнікаў загатаўляла жывёле корм на зіму.

Пасля завязання дыпламатычных адносін паміж польскім эміграцыйным урадам і Савецкім Саюзам, на восені 1941 года было заключана пагадненне пра амністыю палякам і фармаванне на тэрыторыі СССР польскага войска; ссыльныя маглі ладзіць жыццё па-свойму, але толькі на тэрыторыі Алтайскага краю. Мы 6 лістапада 1941 года выехалі ў Бійск.

Пасля амністыі жыць у Бійску стала крыху лягчэй — не ў матэрыяльным сэнсе, але духовым. У мясцовасцях, дзе было больш палякаў, польскае пасольства ладзіла свае дэлегатуры. Арганізавалі дапамогу польскаму насельніцтву з дапамогай давераных асоб. У гэтых пунктах засноўвалі святліцы, бібліятэкі. Настаўніца Кікевічава сарганізавала польскі хор. Дэкламавалі патрыятычныя вершы, ладзілі прынагодныя ўрачыстасці і сяброўскія вечарыны. На тэрыторыі СССР генерал Андэрс стаў арганізаваць польскае войска. Не ўсім ахвотным удалося дабрацца на зборны пункт, не ўсіх зняволеных палякаў вызвалілі. Жанчына магла ўступіць у армію, калі мела нейкія медыцынскія або сувязныя кваліфікацыі. Я запісалася на курс медсясцёр, але перад яго завяршэннем армія Андэрса пакінула Савецкі Саюз і падалася ў Іран. Савецкі Саюз парваў дыпламатычныя адносіны з эміграцыйным урадам.

Савецкія ўлады прымушалі прымаць савецкае грамадзянства. Акцыю пачалі 8 сакавіка 1943 года з працаўнікоў польскага пункта. Адмова выклікала за сабою арышт. Арыштавалі маму. Даведаліся, што эміграцыйны ўрад заклікае палякаў каб прымалі савецкае грамадзянства, бо гэта не будзе мець у будучыні значэння. Гэтую вестку перадала я маме і пасля гадзіны вярнуліся дамоў.

Пасля заканчэння медыцынскіх курсаў я працавала медсястрой у вайсковым шпіталі. Прывозілі многа раненых з фронту. Удзельнічала пры ампутацыі рук і ног; гангрэна руйнавала маладыя арганізмы. Раненыя ляжалі на саломе на падлозе. Стогны, крыкі, просьбы і праклёны. Шырыліся туберкулёз, кароста, тыф; вошы, клапы і мухі лазілі па насычаных кроўю перавязках...

Як жылося нам у Бійску? Пачаткова мелі крыху рэчаў для абмену на базары, які там называлі барахолкай; было там многа зладзеяў, якія вырывалі тавар з рук. Мама часам плыла па цячэнню ракі Біі да бортнікаў, якія жылі ў лясных зямлянках. Купляла ў іх мёд, які прадавала на рынку. Тое, што ад мёду аставалася на сценках вядра, было наша; пілі салодкую ваду з мёдам. Пасля мама стала на працу ў спіртзаводзе, плацілі часткова спіртам. Пазнаёмілася з дырэктарам і ён даў спецыяльны пропуск на вынас спірту, частку якога прадавалі дома. Найчасцей куплялі татары, выпівалі, закусвалі цыбуляй, папівалі вадою і ехалі ў свой бок. Частку спірту бабуля прадавала на рынку, за што некалькі разоў яе арыштоўвалі. Карупцыя і крывадушнасць былі паўсюдныя.

Часта галадалі, голад быў паўсюдны. Елі змёрзлую бульбу і сланечнікавыя жамерыны, а летам лебяду і крапіву. Хлеб быў на харчовыя карткі: па 200 грам для непрацоўных і па 400 (тоўстая скіба) для працоўных — чорны, ліпучы як гліна.

Далікатныя людзі і тыя, што не ўмелі сабе зарабіць на хлеб, паміралі ад голаду. Я зарабляла дадаткова, вяжучы на прутках, куплялі калгаснікі. Некаторыя расейцы атаясамлівалі нас з яўрэямі.

У красавіку 1943 года польскія камуністы ў СССР арганізавалі Саюз польскіх патрыётаў. Адносіны савецкіх улад да палякаў памяняліся, выдалі нам новыя дакументы і мы зноў сталі польскімі грамадзянамі. Сустрэла там маладога сімпатычнага хлопца — Войтка Ярузельскага.

З чэрвеня 1943 года пачалося фармаванне польскага войска ў Сельцах над Акой, паблізу Разані. У адной з гарадскіх школ Бійска створана некалькі польскіх класаў, але ўстанова скора спыніла сваё існаванне, бо моладзь дзеля выжывання была вымушана працаваць. Мама сарганізавала прадшколле для польскіх дзяцей, у якім я стала на працу выхавацелькай; працавала там два гады да моманту выезду з СССР. Стала лягчэй, бо рацыён харчоў для дзяцей і персаналу быў такі, як і для савецкіх прадшколляў. Апал на зіму кожная ўстанова гатовіла самастойна.

У Бійску была адна праваслаўная царква з пажылым святаром, іншых храмаў не было. Старыя людзі хадзілі ў царкву, а маладыя баяліся прызнацца да рэлігіі і моладзь часам збіралася дзеля малітвы ў прыватных кватэрах.

У пачатку 1946 года разышлася вестка пра вяртанне ў Польшчу. Транспарт выехаў у Вялікую пятніцу, вагонаў ужо не засоўвалі. Для нас былі гэта вельмі шчаслівыя велікодныя святы. Ехалі да бацькі, дадому, на Радзіму. Пасля пяці гадоў і аб'езду сямі тысяч кіламетраў наша вандроўка скончылася 17 мая 1946 года.

Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ

# Каля Боцькаў

Удалося мне спазніцца на ранішні поезд у напрамку Чаромхі. Тады падаўся я на аўтобусны вакзал, спадзяючыся даведацца пра аўтобус у напрамку Седльцаў, які, паводле раскладу на прыпынку каля электрастанцыі, павінен адпраўляцца ў уік-эндавыя няспешныя раніцы. І нічога пра яго на беластоцкім аўтавакзале не даведаўся — не беластоцкая машына. Калісь публічная камунікацыя была задзіночаная і больш спрыяльная пасажырам. Але колькісь там гадоў таму скончылася ў нас апякунская дзяржава і цяпер яе грамадзянін поўным гаспадаром не толькі свайго лёсу, але і сваёй бездапаможнасці...

Згледзеў я аўтобус у напрамку Белай-Падляшскай. У шафёра даведаўся, што не спыняецца ён у меншых чым гмінныя цэнтры мясцовасцях. Калі так, дык забіраюся ў Боцькі.

Найперш кіруюся да недалёкага ад аўтобуснага прыпынку помніка міліцыянерам, што загінулі ў пасляваенныя гады змагаючыся з тадышнім падполлем. Цікаўлюся, ці не знесла яго чарговая хваля дэкамунізацыі. Але пакуль што не. Зараз пасля змены грамадскага строю краіны, у 1990 годзе, да помніка была дачэплена другая дошка з лаканічнай інфармацыяй, што той помнік з'яўляецца памяткай мінулага гістарычнага перыяду...

З другога боку вуліцы, акурат насупраць згаданага помніка — царква. А перад царквой звыш дзясятка легкавушак. Загляну, думаю, у боцькаўскую царкву, у якой мне яшчэ не даводзілася бываць. Усярэдзіне было каля трыццаці асоб, усе ва ўрачыста чорным. Павага пабачанага нагадала мне сцэны з фільмаў з сіцылійскімі матывамі і мне стала нават няёмка. Але інтэр'ер царквы захапіў мяне вельмі стрыманым аздабленнем. На сценах няма там фрэскаў, адно толькі на шчытку над іканастасам фрэск Пакрова. Бываюць жа ў некаторых нашых цэрквах такія фрэскі, на якіх святыя вельмі нагадваюць мужыкоў з такой вогненнасцю ў вачах, быццам нехта выараў ім мяжу або ўпусціў дабытак у збожжа. Інтэр'ер боцькаўскай царквы не падсоўвае такіх грэшных асацыяцый.

З правага боку шэсць ці сем лавак, пастаўленых адна за другой, быццам у касцёле. Адно толькі гэтыя лаўкі мабільныя, кожная з дошкі і чатырох ножак. І не падаюцца яны нейкай ілюстрацыяй міжканфесійнай дыфузіі, адно ілюстрацыяй дэмаграфічнай дынамікі.

Перад царквой стаяла адна з удзельніц набажэнства і ў яе я спытаў пра ўрачыстасць. Была гэта *саракавая* абедня па маладым чалавеку, які загінуў у трагічным дарожным выпадку; усіх іх адправілася на той свет чатырох, двух было з Бельска. Дзе быў выпадак, яна не ўмела сказаць і толькі з сеціва даведаўся я пазней, што здарыўся ён у выніку надта бравурнай язды каля Шасталаў, што між Бельскам і Браньскам.

Да царквы наблізіўся памяркоўна малады мужчына.

— O, pan Wojtek idzie pomodlić się, — спрабавала здагадацца мая субяседніца.

— Idę, aby być razem, a modlić się ja nie chodzę ani tu, ani tam, — адказаў пан Войтэк.

Стэнд каля царквы інфармуе, што першая царква ў Боцьках, драўляная, была ўзведзена ў пачатку XVI стагоддзя і, верагодна, датрывала да ўзвядзення сучаснай, мураванай. Цяперашняя царква ў Боцьках арыгінальная не толькі інтэр'ерам, яна таксама арыгінальнай канструкцыі — у яе дзве вежы. Дакладна невядома, калі яна будавалася; некаторыя даследчыкі мяркуюць, што ў першай палове XVIII стагоддзя, але больш агульна прымаецца пачатак 1820-х гадоў. Не ўдалося мне знайсці прозвішча яе сапраўднага будаўніка, яе архітэктара; магчыма, што быў гэта нейкі італьянец. Царква першапачаткова ўзводзілася і асвячалася як уніяцкі храм. Вікіпедыя: „Boćki były jedną z miejscowości, w których w końcu XVIII w. i w I poł. wieku XIX odnotowano największej przypadków przechodzenia unitów na obrządek łaciński. O silnych wpływach katolicyzmu łacińskiego na unicką parafię w Boćkach świadczy fakt, że pierwotnie budynek był bliźniaczo podobny do klasycystycznych kościołów wznoszonych w tym samym okresie. Na wyznanie obiektu wskazywały jedynie wieńczące wieże krzyże z dwiema poprzecznymi belkami. Również wyposażenie świątyni w XVIII-XIX w. było silnie zlatynizowane, co odpowiadało ówczesnym tendencjom w rozwoju Kościoła unickiego, zgodnymi z wytycznymi synodu zamojskiego z 1720”. З 1835 года пачынаецца пераасншачэнне боцькаўскай царквы, яе дэлацінізацыя. Выводзяцца арганы, устаўляецца іканастас і іншыя царкоўныя прыборы. Боцькаўская царква была моцна пашкоджана ў ходзе абедзвюх сусветных войнаў, асабліва ў часе апошняй, калі правалілся дах і былі моцна пашкоджаны абедзве вежы. У 1943 годзе быў праведзены неабходны часовы рамонт, а грунтоўны, калі царква была поўнасцю рэканструявана, быў выкананы ў 1999-2002 гадах.

У нейкіх пяцідзесяці метрах ад царквы, перад будынкам гміннай управы, знаходзіцца памятны крыж, а паблізу інфармацыйны стэнд, што на тым месцы стаяў касцёл, пабудаваны ў той жа час, што і першая царква. Вельмі цікава тое, што на абодвух стэндах падаецца інфармацыя, што Іван Сапега быў пахаваны, паводле царкоўнага — у царкве, а паводле касцельнага — у касцёле; хто ведае — можа яго хавалі так, як пазней маршалка Пілсудскага... Стэнд: „Świątynia otrzymała poczwórne wezwanie: Ducha Świętego, Wniebowzięcia Najświętszej Maryi Panny, świętego Jana Chrzciciela i świętej Katarzyny Panny”. Сайт Драгічынскай дыяцэзіі больш шчодры: „Jan (Iwaszko) Semenowicz Sapieha, który był konwertytą z prawosławia, w dniu 30 kwietnia 1513 roku ufundował pierwszy, drewniany kościół pw. Ducha Świętego, Wniebowzięcia NMP, św. Jana Chrzciciela, św. Katarzyny Dziewicy i Męczennicy, św. Józefa Oblubieńca NMP i św. Antoniego Padewskiego, nadając mu dziesięcinę snopową z folwarków w Andryjankach, Knorydach i Dubnie oraz inne przywileje...”. Касцёл той быў у 1660 годзе спалены войскам маскоўскага князя Івана Хаванскага, адбудаваны ў пачатку XVIII стагоддзя і знесены ў 1850 годзе. Цяперашні касцёл, *pw. św. Józefa Oblubieńca NMP i św. Antoniego Padewskiego*, быў узведзены ў 1739 годзе...

З Боцькаў задумаў я падацца ў Краснае Сяло, аднак каб не тантаць асфальтоўкі сярод чыстага поля пайшоў я ў Дубна. Крышку задзівіў мяне грамадскі будынак, што між расходнымі там дарогамі. Менавіта навейшая яго палова пакрыта старым шыферам, затое старэйшая новай бляхай. У той навейшай мела быць крама, аднак не ўсім яна была даспадобы, бо там мужыкі маглі б распіваць свае грошы. А ў старэйшай частцы святліца і пажарнае дэпо; гэтая частка абноўлена, гараж атрымаў новыя дзверы, за якімі тушыльная машына „Форд”...


Царква ў Боцьках


Валянціна Марціновіч і Лідзія Бандарук

Цяпер вяскоўцы рэдка выходзяць на вуліцу, на лавачку каля хаты. А вось у Нурцы на лавачці прысеў пажылы мужчына, а ў фортцы затрымалася жанчына. Чаму не сядзелі яны разам? Можа ўжо разам насядзеліся, а можа гэта такая праява атавізму, калі мужчына змагаўся за быт навонкі хаты, а жанчына сцерагла ў той час дамашняга ачага. Спытаў я ў іх пра школьны будынак, ці гэта не тысячагодка. Не, будынак быў узведзены нейкіх трыццаць-сорак гадоў таму, а зараз у ім прыватны прытулак для састарэлых. Мне здавалася, што ў такой установе можа пражываць каля сарака душ, аднак мае суразмоўцы патлумачылі, што зараз там каля сямідзесяці чалавек, а раней бывала і каля ста. На маё пытанне пра дарогу ў Краснае Сяло атрымаў я адказ, што туды дзве дарогі: жвіроўка і лясная дарога; апошняя карацейшая, але ў лесе можна заблудзіць...

Падаўся я лесам і выйшаў у сам цэнтр Краснага Сяла. Там помнік дзевяці красносельскім вазакам, пабітым атрадам „Бурага”; надпісы на бетоннай пліце крыху сцертыя, таму да крыжа прымацавана новая табліца з іх прозвішчамі. Аднак агароджу нехта зачапіў і палову яе раскідаў. Разглянуўся я па вуліцы і ўбачыў недалёка лавачку, а на ёй дзве жанчыны; падаўся я да іх...

Лепш трапіць я не мог: першай сядзела Валянціна Марціновіч, актывістка мясцовага самадзейніцтва, а з ёю Лідзія Бандарук. Спытаў я пра помнік. Агароджу знішчыў нейкі аўтамабіліст, верагодна п'яны, які пасля кінуў машыну і прапаў; мабыць тая машына крадзеная была. Хаця здарылася гэта мо год таму, да гэтай пары віноўнік не выяўлены. І рамонтам пашкоджанай агароджы не было каму заняцца; можа солтыс пахадайнічае ў гміне... На табліцы двойчы паўтараецца прозвішча Бандарук, таму я спытаў суседку спадарыні Валянціны, ці гэта хто з ейнай сям'і.

— Так, Міхал Бандарук гэта быў брат майго цесця, — адказала.

Калі я быў даўно-даўно ў Красным Сяле, мае тадышнія размоўцы згадвалі пра своеасаблівы парадокс. У вёсцы малітоўны дом адвентыстаў, якіх тут найменш, каля школы каталіцкая капліца, а праваслаўным, якіх найбольш, трэба ездзіць у царкву аж у Вульку-Выганоўскую, шэсць кіламетраў ад Краснага Сяла. Аднак нядаўна, будучы ў Рыгораўцах, пачуў я, што і ў Красным Сяле ёсць праваслаўная капліца; спытаў я тады пра такую.

— Ёсць, пры дарозе ў напрамку Шашыл. Там была крыніца, над якой каля трыццаці гадоў таму пабудавалі капліцу. Набажэнства правіцца там на Серафіма, 1 жніўня, ды ў час вясковага абходу пасля Вялікадня... Мы ў Боцькаўскай гміне, а наш прыход у Арлянскай...

— А вы хацелі б, каб і прыход быў у Боцьках?

— Выгадней было б. Калісь то і аўтобус у Боцькі быў, але скасавалі...

Крышку пагутарыўшы на іншыя агульныя тэмы, развітаўся я з сімпатычнымі красносельскімі жанчынамі і падаўся ў бок Дыдуль. Калі праходзіў побач каталіцкай капліцы прыгадаў, што каля яе стаяў калісь мажны школьны будынак. Азірнуўся я — двухпавярховы будынак былой школы, пабудаваны верагодна яшчэ пры Гамульцы, аброс дрэвамі так, што яго ўжо амаль і не відаць. Заглянуў я на пляц, а будынак зеўрануў на мяне пустымі аконнымі праёмамі, быццам дух у якой жахалцы. Купіў яго быў калісь мясцовы прыватнік, магчыма спадзяючыся, што так як у суседнім Нурцы, зладзіць там нейкую ўстанову грамадскага прызначэння. Але ж не ўсе планы збываюцца...

Павалокся я на чыгуначны прыпынак Падбелле. Не планаваў я загадзя там апынуцца, таму зайшоў на больш чым гадзіну раней да адпраўлення поезда ў Беласток. Гадзіну ў добрае надвор'е прыемна было б правесці на такой прыродзе, як прыпынак Падбелле. Толькі той прыпынак для пасажыра зусім голы. Ёсць там пакладзены новыя перонныя пліткі, ёсць новая салідная агароджа самога перона, але пра нейкі брусок ці лавачку, дзе можна было б прысесці ў чаканні поезда, чыноўнікі чыгуначнай інфраструктуры не падумалі. Але пры добрым надвор'і можна ж прысесці і на краю перона...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Роднае слова ў Трасцянцы

У вялікай вёсцы Трасцянка, што ў гміне Нарва, прайшоў трэці выпуск «Пікніка з беларускім словам». Сабраў тут за багатым сталом сваіх калег — пісьменнікаў і сяброў намеснік старшыні Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», паэт, празаік, педагог і радыйшчык, глыбакаводны аквалангіст і гаспадар Віктар Стахвюк, чалавек з біяграфіяй, якою можна было б запоўніць не адно жыццё. Шмат гадоў пражыў ён у польскім горадзе Чанстахова, затым у Беластоку... Пасля бадзяння па ўсім свеце і засноўвання розных прыгодных бізнесаў (ён жа і заснавальнік марскога флоту Беларусі), зноў вярнуўся ў сваю родную вёску, аднавіў Мілeніну хату і тут жыве, дзейнічае і піша. А што піша, новага і незвычайнага, прадставіў і ён — са свайго аб'ёмістага брульёна-кнігі — аўтабіяграфічную кнігу, напісаную на трасцянiцкай гаворцы. Ён жа і ўчаставаў слухачоў фрагментамі гэтай незвычайнай прозы, якая тых, хто пачытаў яе ўжо больш, даводзіць да неверагоднага трапятання душы. Які ж моцны тэкст! Спадзявайцеся, чытачы, што неўзабаве можа і паявіцца гэты гарачы твор на старонках друкаванай кнігі.

Незвычайныя гэтыя чытанні — бо пасярод лесу, лугоў і вадаёмаў — прыцягнулі таксама вялікую групу чытачоў, кнігалюбаў, дзеячаў культуры, суседзяў і прыхільнікаў як слова, так і самога Віктара Стахвюка і Трасцянкі. На самым пачатку Віктар павёў сваіх сяброў на самае самавітае месца ў вёсцы — пад адну з найпрыгожых у свеце цэркваў, дзе распавёў пра родную вёску, вядомую ад стагоддзяў сваімі культурніцкімі і адукацыйнымі дзеяннямі, і паказаў помнік ахвярам бежанства 1915 года, які ўстанавіла вёска побач свайго храма. І ў ветраны адвячорак (9 ліпеня), пад хутка плывучымі паўнадаждлівымі хмарамі, абмінаючы павыдзіраныя з каранямі бураломы, усе падаліся былі ва ўрочышча, дзе Віктар пабудаваў сваю самотню. Загарэлася вогнішча, загучалі дуды ды гітара Зміцера Вайцюшкевіча, прагучалі словы... У гэты раз Віктар Стахвюк паставіў банер з надпісам на роднай гаворцы: «Пікнік з білоруськім словом». Прагучалі словы таксама на родных гаворках — на макранскай у вершах Барбары Гаральчук, аўтаркі выдадзенай у мінулым годзе кнігі пра бежанства і новай, свежанькай «Мёд» пра пасляваеннае дваццацігоддзе і жыццё беларускіх сялян пасля вяртання «ў новую айчыну».



Фота Міры Лукшы

Віктар Стахвюк чытае «Подых цемры»

— Назіраем з'яўленне вершаў як на літаратурнай мове, так і на падляшскіх гаворках, — адзначыў Віктар Стахвюк, беларусіст, якому ўсё ж найлягчэй адкрыць сваю душу на трасцянiцкай гаворцы. — Пачынаем пісаць таксама на дзвюх мовах — на літаратурнай заўжды, бо такая традыцыя ў нас склалася, але ж таксама ёсць патрэба такіх малых моў, як наша мова вёскі Трасцянкі. Лічу, што яна раўнапраўная, што нельга пра яе забываць. Гэта ж скандал, калі апошні абарыген тут, на Падляшшы, памрэ, а дзеці і ўнукі не будуць ведаць мовы і будуць шукаць: а дзе яна? А яна ў вершыках, у паэзіі, апавесцях.

І ўспамінаў, глядзеўшы на Віктара Шведа, мафусаіла пісьменнікаў Беласточчыны, які таксама для яго быў «першым жывым паэтам» і ён жа быў адкрыў яго для беларускай творчасці:

— Я першы верш напісаў у чацвёртым класе пачатковай школы. Мне было 11 гадоў. Трохі пісаў, у шафку кідаў. Адважыўся прызнацца Віктару Шведу, што пішу, і мой першы верш быў надрукаваны ў «Зорцы». Калі жыў у Чанстахове і чакаў цягніка, бо ехаць да жонкі 20 кіламетраў трэба было, то тады на сурвэтках пісаў. Недзе ў сшытках яны ляжалі. А аднойчы спадар Ян Чыквін, едучы з Менска, сустрэў мяне ў цягніку і сказаў прынесці праз два тыдні мае вершы, каб выдаць зборнік. Я троху вершаў дапісаў і прынёс. Так і нарадзіўся мой першы зборнік. Гэта быў 2002 год. І так я стаў пісьменнікам, — канчаў жартам.

І сапраўды, пад жарт і слоўнае змаганне з ветрам «смакавалі» і свежыя літаратурныя творы, і прынаднае смакоцце, нарыхтаванае як на пікнік — музамі з вёскі, не толькі жанчынамі.

— Важна, што людзі сустракаюцца ў час такіх імпрэзаў, — адзначыла Барбара Гаральчук, якая бывае на ўсіх культурных мерапрыемствах, перш за ўсё беларускіх, якая другі раз наведала пікнік. — Аўтары гавораць пра сваю творчасць, мары, выказваюць свае думкі. Інакш усё адбываецца на афіцыйных мерапрыемствах. Я люблю быць з людзьмі, бо яны натхняюць мяне.

Натхнёныя да новых творчых подзвігаў у наш нялёгкі час і аўтары, і чытачы гулялі доўга ў пушчанска-лугавым старонні. Будуць вершы, будуць кнігі, будуць чытачы!

(лук)

KNIHARNIA.BY

КАТАЛОГ | НАВІНКІ | АКЦЫІ | БЯСПЛАТНА | ПРОЗА | ПАЭЗІЯ | ПРА НАС

ПРЫ ЗАКАЗЕ КНІГ НА СУМУ БОЛЬШ ЗА 100 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ

КНІГА Ў ПАДАРУНАК!

У НАС МОЖНА ВЫДАЦЬ СВАЮ КНІГУ!

# http://kniharnia.by

Сёння ўжо мала каго здзіўляе магчымасць праз тэлевізар выходзіць у інтэрнэт альбо праз тэлефон пракладваць маршрут абранай паездкі. Было б дзіўна, калі б такі прагрэс не закрануў выдавецкай справы і распаўсюджвання кніг. Словазлучэнне „электронная кніга" не патрабуе дадатковых тлумачэнняў і ўспрымаецца як прылада для чытання, так і электронны варыянт выдання.

У Сеціве можна знайсці, пэўна, мільярды электронных варыянтаў кніг на розных мовах і на розныя тэмы. У прынцыпе, усё як у звычайнай кнігарні. Праўда, у звычайных кнігарнях па ўсім свеце даволі цяжка адшукаць кнігу, напісаную па-беларуску. Нават у Беларусі, цяпер ужо якой нібыта месяць дбаць пра захаванне і развіццё беларушчыны і заахвочваць выдаванне беларускамоўных кніг. І таму ў Сеціве з'яўляюцца электронныя выдавецтвы і кнігарні, якія абіраюць для сябе той накірунак бізнесу, які хоць і запатрабаваны грамадскасцю, але на даным этапе не распаўсюджаны. Гэта — продаж беларускіх электронных версій кніг і прадстаўленне магчымасці выдання кліентам сваёй электроннай кнігі.

Адной з такіх кнігарняў-выдавецтваў у віртуальнай прасторы з'яўляецца партал беларускіх электронных кніг, які месціцца па адрасе **http://kniharnia.by**. „Ідэя нашага праекта вельмі простая — рабіць, збіраць і распаўсюджваць электронныя версіі беларускіх кніг і стаць найлепшай пасрэдніцкай пляцоўкай паміж аўтарам і чытачом у інтэрнэце. Мы робім стаўку на актыўнае прасоўванне беларускіх кніг у інтэрнэце і ствараем універсальны партал для знаёмства з найлепшай беларускай літаратурай. Дзякуючы сучаснаму дызайну і зручнаму інтэрфейсу, вы з лёгкасцю можаце набыць кнігі, якія вам спадабаліся, і ўжо праз імгненне чытаць іх на сваіх мабільных прыладах альбо камп'ютарах", — распавядаюць стваральнікі электроннай кнігарні на старонцы „Пра нас", дадаючы пры гэтым, што вераць у будучыню электронных кніг, „якія можна чытаць на разнастайных мабільных прыладах". „І мы вельмі хочам, каб дзякуючы новым тэхналогіям цікавая беларуская кніга дайшла да як мага шырэйшай аўдыторыі па ўсім свеце", — сцвярджаюць яны.

Першая рубрыка сайта змяшчае каталог выданняў, якімі распараджаецца Kniharnia.by. Гэта аўдыякнігі, старажытныя творы, сучасная проза і паэзія, пераклады, гістарычная проза, публіцыстыка, кнігі для дзяцей і школьнікаў і іншыя. Маюцца ў „Каталогу" і „Книги на русском".

Як і на разнастайных сервісах, праз якія прадаюцца кнігі, частка з іх распаўсюджваецца бясплатна. Беларуская электронная кнігарня тут не выключэнне. На партале маецца рубрыка „Бясплатна", адкуль, не плацячы грошай, можна спампаваць упадабаную кнігу. Сярод іх, дарэчы, „Час second-hand" Святланы Алексіевіч, поўны збор твораў Васіля Быкава, і некалькі кніг іншых малавядомых аўтараў.

Уладары Kniharni.by творча падыходзяць да зацікаўлення патэнцыяльных чытачоў. На партале праводзяцца разнастайныя акцыі. Праўда, пакуль іх было не надта многа, бо сайт узнік толькі сёлета.

Пакуль такая электронная кнігарня, арыентаваная на распаўсюджванне беларускамоўных кніг, ледзьве не адзіная ў інтэрнэце. Але не выключана, што яна будзе карыстацца большым поспехам у продажы электронных кніг і хутка ў яе з'явяцца заўважныя канкурэнты.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА

Працаваў для беларускай музычнай культуры


Фота з архіва Сяргея Чыгрына

## 110 гадоў з дня нараджэння Антона Валынчыка

Беларускі кампазітар і педагог Антон Валынчык нарадзіўся 23 ліпеня 1896 г. у вёсцы Мяльканавічы на Слонімшчыне. Паходзіў з сям'і царкоўнага рэгента. Скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча. Менавіта там навучыўся добра іграць на скрыпцы. Потым навучаўся на двухгадовых настаўніцкіх курсах у Гродне. Калі надышла Першая сусветная вайна, быў прызваны ў войска, дзе 19-гадовым юнаком кіраваў салдацкім хорам. Бацькі былі ў бежанстве ў Курскай вобласці Расеі. Валынчык паехаў да іх, але там яму не спадабалася і ён вярнуўся на радзіму. Па дарозе трапіў у Ветку на Гомельшчыне, нейкі час там працаваў. Потым быў запрошаны ў Гомель на працу ва ўпраўленне Чырвонага Крыжа. У Гомелі пазнаёміўся з некалькімі кампазітарамі, вучыўся дырыжыраванню і музыцы ў цэлым. Вяртаючыся на Слонімшчыну ў 1919 г., трапіў у паласу ваенных дзеянняў, у выніку асеў у Лунінцы. Хутка атрымаў дыплом настаўніка і да 1924 г. працаваў у прыватным рускім рэальным вучылішчы, адначасна быў рэгентам у мясцовай царкве. У 1924 г. запрошаны дырэкцыяй Клецкай беларускай гімназіі на працу, на што з радасцю пагадзіўся. Арганізаваў там хор, які складаўся ажно з 60 вучняў. Пяцігадовую працу ў Клецку лічыў самым шчаслівым перыядам свайго жыцця.

У 1929 г. педагог пераехаў на працу ў Навагрудскую беларускую гімназію. Там да 1934 г. выкладаў спевы, а таксама арганізаваў хор і аркестр. У 1934 г. польскія ўлады закрылі Навагрудскую гімназію. Валынчык перайшоў на працу ў польскую гімназію імя Міцкевіча, але беларускую дзейнасць ніколі не кідаў. У 1937 г. Антон Валынчык завочна скончыў Вышэйшыя музычныя курсы Варшаўскай кансерваторыі пры Крамянецкім музычным ліцэі. У гады Другой сусветнай вайны жыў у Слоніме, дзе кіраваў рознымі харамі.

Пасля вайны Антон Валынчык быў мастацкім кіраўніком Беларускага міжабласнога ансамбля песні і танца ў Ашмянах. Каб пазбегнуць рэпрэсій, супрацоўнічаў з харамі ў праваслаўных храмах у Клецку, Навагрудку, Слоніме, Жыровічах і Менску. У 1956 г. кампазітар паехаў у Магілёўскую вобласць, дзе ўладкаваўся кіраўніком хору Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. Праз год пераехаў у Маладзечна, дзе стаў кіраўніком міжабласнога Маладзечанскага ансамбля песні і танца, які ўзначальваў чатыры гады. У 1961 г. пераехаў у Гродна. Там ён узначальваў кафедру музыкі і спеваў Гарадзенскага педінстытута, адначасна працаваў хормайстрам Гарадзенскага народнага ансамбля песні і танца „Нёман" (ад кіраўніцтва якім пасля быў адхілены савецкай наменклатурай) і мастацкім кіраўніком Гарадзенскай народнай харавой капэлы настаўнікаў. Кансультаваў як хормайстар многія харавыя капэлы Гарадзеншчыны.

Антон Валынчык увасабляў у канцэртных праграмах творы І. Баха, Л. Бетховена, П. Чайкоўскага, Ф. Шуберта, С. Манюшкі, К. Вебера. Апрацоўваў беларускія народныя песні. Пісаў і рыхтаваў для выканання свае песні і хары на словы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Адама Русака, Петруся Броўкі ды іншых беларускіх паэтаў. Практыкаваў у харах выкананне ў стылі „а капэла".

Памёр 13 лістапада 1985 года. Пахаваны на гарадскіх могілках Гродна па праспекце Касманаўтаў. На магіле доўгі час быў толькі металёвы крыж. Высілкамі беларускіх грамадскіх актывістаў з удзелам дзяржаўных структур быў усталяваны новы помнік кампазітару.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Дарэмнай чыгункай на «фолькі»

У адпаведнасці са складзеным графікам чыгунка 22-24 ліпеня ўводзіць у рух адмысловы бясплатны цягнік з Варшавы-Усходняй у Чаромху на Міжнародны фестываль шматлікіх культур і народаў «З вясковага панадворка», які ў народзе завуць «фолькамі». Цягнік будзе спыняцца на вызначаных станцыях. І так, з Варшавы-Усходняй адправіцца 22 ліпеня ў 15 гадзін (5 перон, пуць 24) і паедзе цераз Мінск-Мазавецкі (15:34), Седльцы (16:10), Сямятычы (17:01) і Нурэц (17:12). У Чаромху поезд прыбудзе ў 17:30.

Назад цягнік вернецца 24 ліпеня. З Чаромхі адправіцца ў 22:30 і будзе спыняцца ў Нурцы (22:47), Сямятычах (22:59), Седльцах (23:49) і Мінску-Мазавецкім (00:20). Прыезд у Варшаву-Усходнюю запланаваны на 00:45. Аматарам фолькавых атракцыёнаў, якія захочуць падарожнічаць у Чаромху, дастаткова заявіць кіраўніку цягніка, што падаюцца на фолькавы фестываль у Чаромху. Нічога больш.

Затым да сустрэчы ў Чаромсе на фестывалі. Запрашаем!

**Уладзімір СІДАРУК**

## У Нараўцы маюць найлепшыя вуліцы

Зараз у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета найлепшыя маставыя на вуліцах маюць жыхары Нараўкі (у ёй пражывае 895 чалавек). І гэтых вуліц і вулачак шмат. У чэрвені гэтага года асфальт паклалі яшчэ на вулачках Вузкай і Надрэчнай. Да гэтай пары была тут гравійка. Новы асфальт паклалі таксама на вуліцы Агародавай (на ёй было старое асфальтавае палатно). **(яц)**

## Шавец Ян Сахарчук

Ян Сахарчук — ураджэнец Новага Ляўкова Гайнаўскага павета. Яго бацькі працавалі на гаспадарцы. Спадар Ян таксама займаўся сельскай гаспадаркай, але не ў вялікім маштабе. Ён перш за ўсё шавец — зараз адзіны ў Нараўчанскай гміне. Мае закончаную пачатковую школу ў Старым Ляўкове. Шавецтву вучыў яго Міхал Байко, шавецкі майстар з Белавежы. Пяцьдзясят гадоў таму быў яшчэ адзін у гэтай самай вёсцы шавец, яго вучань. Зараз іншых асоб з такой прафесіяй тут няма.

Спадар Ян быў актыўным прафесіяналам на працягу трыццаці гадоў. Шыў ды рамантаваў боты. Меў тры шавецкія машыны, у тым ліку нямецкай маркі „Singer”. Шыў і боты-афіцэркі, і валёнкі з лямцу. Аднаўляў скураныя сумкі і партманеты, кашалькі. Яшчэ не так даўно заказаў на новыя боты на любую мерку было шмат. Належаў ён да Цэха розных рамёстваў у Гайнаўцы. Цэх надзяляў чаляднікаў спецыяльна выробленай цялячай скурай, гумай ды клеем.



Ян Сахарчук мае дыплом шавецкага чаляднікa. Меў ён вучняў. Сваю майстэрню мае ў Новым Ляўкове. У яго ўжо свае гады і сіл штораз менш ды менш. Хоча мець пераймальнікаў, але ніводзін з двух яго сыноў не выбраў сабе гэтай прафесіі. Ды іншых ахвотных навучыцца шавецтву не знайшоў. Мабыць, гэтая прафесія без будучыні і яна згіне.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**





**22.07 ПЯТНІЦА**

16:30 **Конкурсу маладых гуртоў**
19:00-20:00 **Гогодзи Ганскі**
20:00-21:00 **Ilo & Friends**
21:00-22:00 **Наві**
22:00-23:00 **Re1ikt**
23:00-00:30 **Крамбамбуля**
00:30-01:10 **Hańba!**
01:10-01:50 **Дзецюкі**
01:50-02:30 **Hańbuki**
02:30-06:00 **DJ Wiata: Ludwik Zamenhof**

**23.07 СУБОТА**

18:00-18:30 **Лаўрэат Конкурсу маладых гуртоў**
18:30-19:30 **:Б:Н:**
19:30-20:30 **Tonqixod**
20:30-22:00 **Jazzombie**
22:00-23:00 **Erik & the Worldly Savages**
23:00-00:00 **Zero – 85**
00:00-01:30 **Брутто**
01:30-02:30 **Znich**





## 24.07 — 30.07

**(22.03. — 20.04.)** Першая палова тыдня прынясе шмат радасных хвілін і выкананне запаветных жаданняў. Трэба здабыць унутраную свабоду. Перыяд для росквіту кахання. Не скупіся на пахвалы і прызнанні каханаму чалавеку, рабі прыемныя сюрпрызы, нічога не чакаючы наўзамен. Шмат з любові, якую падорыш людзям, вернецца ў бoльшым маштабе.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш класічным дамаседам. Сям'я, дом надзейны як крэпасць і цёплы псіхалагічны клімат. Не сядзі і не чакай, каб у твой дом увайшоў дабрабыт, але і рабі нешта карыснае. Практычныя справы дапамогуць табе наблізіцца да ідэальнага хатняга агменю. Зрабі крок да прымірэння з бацькамі. Родныя людзі — самая вялікая каштоўнасць, якую варта берагчы і захоўваць.

**(22.05. — 22.06.)** Захочацца даведацца ўсяго і пра ўсё. Зможаш папоўніць прапушчанае ў кампаніі. Шмат часу правядзеш на размовах са знаёмымі, сваякамі, суседзямі. Выдатны час для вучобы. Твой інтэлект і памяць цяпер працуюць хутчэй і больш надзейна за самы лепшы камп'ютар, веды будуць з лёгкасцю засвоены. У другой палове тыдня могуць паўстаць праблемы з бытавымі жыллёвымі ўмовамі.

**(23.06. — 23.07.)** Засяродзься на вырашэнні матэрыяльных праблем; поспехі ў любых відах дзейнасці. За кароткі тэрмін справішся з тым, што не ўдавалася зрушыць з мёртвай кропкі на працягу некалькіх тыдняў. Зробіш чаканыя пакупкі. У другой палове тыдня стрымайся ад новых знаёмстваў, асцерагайся падману і крадзяжоў падчас паездак.

**(24.07. — 23.08.)** Займіся ўласнай персонай. Перад табою могуць адкрыцца цалкам новыя веды, якія выведуць цябе на новы ўзровень светапогляду. Можаш прасунуцца наперад у ведах і прэстыжу. Зрабі тое, на што раней не хапала смеласці. Напрыклад, радыкальна памяняй свой знешні выгляд. На цябе звернуць увагу, убачаць з новага боку. У другой палове тыдня стрымайся ад куплі дарагіх рэчаў, трымай грошы ў надзейным месцы.

**(24.08. — 23.09.)** Больш часу праводзь у адзіноце і спакоі. Пажаданы павольны распарадак дня, без жорсткіх планаў. Паспрабуй свабодна і лёгка плыць па рацэ жыцця і памалу вырашаць пытанні. Вельмі важны перыяд для перапрацоўкі псіхалагічных комплексаў, духоўных практык, медытацыі, малітвы. Не адцягвайся на мітусню паўсядзённых клопатаў, аднаві душэўную раўнавагу.

**(24.09. — 23.10.)** Шмат часу будзеш праводзіць з сябрамі. Узрастае твая патрэба ў новых уражаннях. Выдатны час, калі мары пачынаюць увасабляцца ў жыццё, калі спраўджваюцца запаветныя жаданні. Уступаеш у зусім новы перыяд свайго жыцця, поўны перспектыў і адкрыццяў. Ствары нейкі план таго, чаго хацелася б дамагчыся ў будучыні.

**(24.10. — 22.11.)** Скарпіёнам, якія доўга і ўпарта рухаліся да вызначаных мэты, атрымаецца дамагчыся ўражлівых вынікаў. З панядзелка па чацвер знешнія абставіны памяняюцца, табе прадставіцца нечаканы шанц на поспех. Важна быць пастаянна ў курсе падзей, лавіць зручны момант. Пазітыўныя зрухі могуць адбыцца ў сферы кар'еры і прафесійнай дзейнасці. Добры час для лячэння хранічных захворванняў найноўшымі медыцынскімі прыборамі. Дапамога аўтарытэта. Захоўвай нейтралітэт.

**(23.11. — 22.12.)** Настае спрыяльны час для падарожжаў і адпачынку. Нечакана спантанна збярэшся ў дарогу, што асабліва верагодна, калі ў цябе нядаўна завязаліся рамантычныя адносіны з чалавекам з іншага рэгіёна або краіны. Пераадолееш любыя адлегласці. У цэлым тыдзень прынясе вам шмат прыемных сюрпрызаў, галоўнае — дзейнічаць.

**(23.12. — 20.01.)** Могуць адбыцца змены ў асабістым жыцці. Не выключана, што з панядзелка па чацвер пачнеш інтымную сувязь з чалавекам, які выцісне з твайго жыцця ранейшую страсць. Адчуеш узмацненне сексуальных патрэб. Многія рашэнні будзеш схільны прымаць інтуітыўна. Спрыяльны час для ўрэгулявання пытанняў звязаных са спадчынай, страхаваннем, уладкаваннем свайго месцажыхарства.

**(21.01. — 19.02.)** Тыдзень звязаны з актывізацыяй зносін, перапіскі. Шмат сустрэч з рознымі людзьмі, у тым ліку з дзелавымі партнёрамі ці каханым чалавекам. Зносіны з другой палавінкай будуць праходзіць па большай частцы па тэлефоне і электроннай пошце (з-за ад'езду каханага чалавека?). З панядзелка па чацвер надыходзіць удалы час для падпісання шлюбнага кантракту, дагавораў, рэгістрацыі шлюбу, а таксама для вясельнага падарожжа.

**(20.02. — 21.03.)** Тыдзень, хутчэй за ўсё, не прынясе табе нейкіх важных падзей. Рэкамендуецца спакойна і метадычна займацца рашэннем асабліва практычных пытанняў. Добрае самадчуванне і высокі ўзровень працаздольнасці. Не варта забываць пра сваё здароўе. Выдатны час для правядзення аздараўленчых дыет, пачатку цыкла лячэбна-прафілактычных мер: масажу, загартоўвання.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

1. выключнае права, ільгота, 2. доля, якая ўносіцца ў агульную справу кожным ю ўдзельнікам, 3. спецыяліст па вырошчванню кветак, 4. бестурботная забава, разгульнае жыццё, 5. левы прыток Іртыша, 6. прадмет вупражы, які надзяваецца каню на шыю, 7. агарожа з жэрдак пераплеценых прутамі лазы, 8. пагардлівая мянушка неспрактыкаванага маладзёна.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 27 нумара**

Вісла, Дзюма, жыхар, лой, мі, музей, Сува.

Рашэнне: **Людзей слухай а сваім розумам жыві**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (48)



А ці сёлета чарніцы ў вас абрадзілі? — пытаю ў цёткі Веры з Гуты-Баравенскай.

— Як ніколі! Іх проста не перабраць, — жанчына, каб выказаць увесь гэты цуд, раскошна ківае галавой. І дадае: — Бо ведаеце, у нас вайна, нястачы, а тут такі залаты ўраджай абсыпаўся з неба. Кожны, хто мае рукі і ногі, спяшае ў лес, каб сабе падзарабіць... Раней людзі збіралі ягады на свае патрэбы. Сушылі на зімку. Гатавалі сочыва, канфіцюры. А зараз, — кажа мая субяседніца, — гэта вялікія грошы. Людзі ад рання да ночы шчыруюць у лесе. Ды нават гарадскія спецыяльна бяруць водпуск, каб падзарабіць на чарніцах.

— Ці шмат грошай можна зарабіць на чарніцах? — пытаю.

— Дастаткова! — чую ашчадна-таемны адказ. На Палессі такая мода, каб не хвастацца багаццем. Хвальба наклікае зайздрасць, правакуе чары, хваробы.

Каб дэталёва высветліць справу чарніц і рытуалаў, звязаных з гэтай архаічна-лясной культурай, цётка Вера запрашае ў сваё сяло. Ды не проста запрашае, а спакушае абяцанкай. Там жанчыны з калектыву «Прыданкі» праспяваюць мне *ягадныя* песні ды яшчэ вядзерца *йігодок* назбіраюць. Каб добра і салодка іх успаміналa. Запрашэнне, як не цікава, напамінала доўгатэрміновую візу, паколькі датычыла збіральнага сезона. Палескі сезон на чарніцы пачынаецца ў палове чэрвеня і цягнецца ажно да канца ліпеня.

* * *

У чарговае палескае падарожжа я падалася 11 ліпеня, напярэдадні свята Пятра і Паўла. У спякотным, набрынялым паветры, луналі ўсе пахі лета: растоплены асфальт, цвет ліпы, мужчынскі пот, духмянае сена, каровіны ляпёшкі, спелыя вішні і маліны. Дарога з Беластока ў Камень-Кашырскі як ніколі здалася кароткай і гладкай. Усё з-за адсутнасці чэргаў на польска-ўкраінскай мяжы, дзе зараз спынены малы памежны рух. Рэйсавы аўтобус Радам — Луцк са жменькай пасажыраў перасякаў мяжу трыццаць хвілін. Штосьці такое сустрэла мяне ўпершыню за ўсе дванаццаць гадоў падарожжаў ва Украіну. З боку памежных службаў сустрэла я незвычайную ветлівасць і стрыманасць, і гэта шакіравала.

З дарожнай дрымоты выбіў мяне прыдарожны вобраз быццам з іншага свету. Дзесьці ў палове дарогі між Ковелем і Каменем-Кашырскім у маршрутку сталі заходзіць групы лясных збіральніц. У кампаніях, якія лічылі па тры-пяць асоб, поўнасцю дамінаваў прыгожы пол. Усе маладзіцы, дзяўчаты і падлеткі мелі на галовах белыя хусткі. Іх ясна-шэрае адзенне таксама здавалася з іншага часу, быццам спецыяльна прыхаванае ў куфры на збіральніцкі сезон. Маладзіцы прыаздобілі спадніцы простым фартушком без вышыванак, які служыў за *запол*. У ім былі загорнуты сцёблы лекавых зёлак, лучына, нейкія бэткі. На абліччах збіральніц малявалася пачуццё ўдачы. Пра салодкі поспех у лесе заяўлялі таксама іх сіне-амарантавыя ад соку чарніц зубы. Збіральніцы з гонарам трымалі ў руках поўныя вёдры, абвязаныя белым палатном. У той момант я яшчэ не ведала, што на Палессі існуе асобны песенны абрад, звязаны са збіраннем чарніц, калі збіральніцы *ўздыхаюць* да лесу, дораць яму галасістыя песні, а дзеўкі мараць і гадаюць пра шчаслівыя замужжы.

— Гэта штосьці падобнае на *Івана-Купалу*, — кажа цётка Вера.

Апошняя хрысціянска-паганская назва адносілася да Купалля. У Гуце-Баравенскай, дзе няма ні рэчкі, ні возера, не ведалі Купалля, усе спевы ладзілі пры збіранні чарніц у сваім лесе. Ніхто нічога не арганізаваў, не прыдумваў. Усё адбывалася проста. Ішлі па чарніцы і спявалі. Бывала, так завядуць спевы, што ўвесь лес іграў, шумеў і гудзеў.

* * *





У Камені-Кашырскім у гэты раз я таксама адчула сябе свабоднай, як у сваім лесе. Хоць мне трэба было ехаць на поўнач, на Прыпяць, штосьці спыніла і заставіла пасяліцца ў *градзе* на рэчцы Цыр. У небе катлаваліся хмары і здалёк адзываўся гром. Пахла бурай. У гэты раз дзесяцітысячны горад здаўся празмерна разбудаваным сялом. На вуліцы былі ўжо відавочныя прыкметы свята. Жанчыны ў белых хустках спяшалі ў царкву на вячэрню. Год таму, якраз на Благавешчанне, у Камені згарэла царква. У сувязі з гэтым вернікі перайшлі да Пертапаўлаўскай царкоўкі на акраіне горада. Беручы пад увагу вялікую адлегласць, частка жанчын дабіралася да храма на веласіпедах «Украіна». Нягледзячы на летне-канікулярны перыяд, я была адзінай госцяй у гасцініцы «Лідар». Каб не губляць часу, я рашыла прагуляцца па знаёмых месцах. Усюды панавалі будзённы закалот і апошнія падрыхтоўкі да свята.

У знаёмай піцэрыі «Тарантэла», дзе два месяцы таму назад тоўпіўся народ і немагчыма было прысесці, сёння панавала бязлюддзе. У маладзенькай барменкі я спытала яшчэ пра іншыя рэстараны.

— Я па рэстаранах не хаджу! — заявіла з гонарам дзяўчына. — Пытайце на вуліцы.

Пачуты адказ здаўся знаёмым і прамовіў рэха з падляшскага панадворка саракагадовай даўнасці, калі пабыўка ў рэстаране абазначала больш чым яду і адпачынак. Усе нашы матулі прыказвалі дочкам абмінаць гэты грэшны прыбытак!

Я аднак рашыла наведаць рэстаран «Палессе». У аграмадным холе, прыаздобленым у савецкім гусце, гасцявала пяць цётак. На іх стале стаялі ўжо дзве пустыя пляшкі з-пад гарэлкі і куча абгрызеных курыных костак. Разам з маім уваходам у рэстаране сціхлі рогат і жарты, запанавала мёртвая цішыня. Каб не мяшаць у вясёлай бяседзе, я завярнулася на пяце ды рашыла схадзіць яшчэ ў адно месца. У карчме «Застаў'я» таксама не было жывой душы. Я заказала абед і прысела за сталом, засланым вышываным абрусам. На драўляных сценах таксама красаваўся этнадэкор і казацкія рэквізіты: куфлі, шаблі, табакеркі. Афіцыянткі ў вышыванках, каб прыаздобіць маю гасціну, адразу ўключылі музыку. Замест народных песень з гукаўзмацняльнікаў захарчэў рускі шансон:

— *А фуй!*

Яда смакавала. Пасля вячэры я рашыла яшчэ прагуляцца па горадзе. На вуліцы «Культуры» абмінула мяне група жанчын з поўнымі вёдрамі чарніц і чорнымі зубамі. Звычайна ў гэтым месцы да рання бушуе моладзь. Але сёння панавала ціш, як на могілках. Усе дзесьці спяшаліся, беглі, прыбіралі панадворкі. Я таксама паспяшыла адпачыць пасля дарогі і невыноснай спякоты. У абед жара дасягнула 32 градусаў. Закалыхаў мяне пах дажджу, які ўжо прасочваўся праз паветра. Дзесьці пасля поўначы пачалася вялікая бура з маланкамі. Стыхія бушавала ажно да світання. А ў пяць раніцы закукарэкалі пеўні. Адкрываўся новы, незабыўны дзень, пра які не расказаць...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960